

«Xoroshe» Магдаліны Петрук➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



„Олень по бору ходіт”➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3037) Год LIX | Беласток, 27 ліпеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# АБ-БАСовішча!

„Z całaj adkaznaściu swaich slou, a baczył na Festiwal Basowiszcza Funpage mnoho.......kancert AB, BA arkiestr był najlepszym u całaj historyji basau......amin.” — заявіў Хрыстафор Сяськевіч у сацыяльнай сетцы. І да часу, калі я капіяваў гэты запіс, не было ніводнага адмоўнага каментарыя. Аж хочацца дадаць тут смайліка ці лайка.

— Пра нешта такое я марыў з таго часу, калі пабачыў на сцэне з дзецьмі гурт „Gorillaz”, — кажа Юрка Асеннік. — Музыкі, якія не паказваліся публічна, і раптам прылюдна з малышамі далі такі канцэрт!

Так нараджаюцца ідэі. Пасля застаецца толькі знайсці нагоду і людзей для іх ажыццяўлення. Не магло быць лепшай нагоды за 25-годдзе „Басовішча”. Ды лепшых выканаўцаў за беластоцкіх вучняў, што вырастаюць пад крыламі Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА, то-бок тых асоб, якія стаялі ля вытокаў „Басовішча”. Вось кароткі генезіс праекта „25 АБ-БА Аркестр”. Калі б пісаць больш падрабязна, то: праца, праца, праца!

— Акцыі з удзелам дзяцей заўсёды нясуць з сабой элемент няпэўнасці, нават шаленства, — кажа Лявон Вольскі, артыстычны апякун праекта, — а паколькі я па сваёй натуры крыху авантурыст, дык мне задума адразу спадабалася. Хаця я, як не дзіўна гэта прагучыць з вуснаў беларускага музыкі, на недахоп працы не наракаю, адразу пагадзіўся прыняць у ёй удзел.

Спадабалася і міхалоўска-гарадоцкім рок-музыкам з гурта „Dead Insemination” пад кіраўніцтвам Паўла Азяблы. Міна Аляксандра Памідорава на першай супольнай рэпетыцыі напярэдадні фестывалю таксама не пакідала ніякіх сумненняў: ухваліў. А на твары Ігара Варашкевіча, які спаткаўся з хорам толькі ў дзень канцэрта, у час пробнага выканання „Слуцкай брамы” выплыла ўсмешка шырынёй амаль на ўсю сцэну. Юрка Асеннік так гарманічна сышоўся з малечамі, як быццам усё жыццё тое і рабіў, што спяваў вясёленькае рэгі. Думку Хрыстафора Сяськевіча, які не ўваходзіў на сцэну сама менш пятнаццаць гадоў, ад калі перастаў існаваць „Кардон”, я ўжо працытаваў. Яго гераічнае змаганне са страчаным на фестывальным уздыме голасам таксама запішацца ў хроніках „Басовішча”.

„25 АБ-БА Аркестр” — гэта, безумоўна, найбольшы пазітыў юбілейнага Фестывалю музыкі Маладой Беларусі, але не адзіны. Канцэрты былі куды больш за здавальняючыя. Я асабіста ў пятніцу найбольш асалоды атрымаў ад гурта „Litvintroll”, які па-майстэрску спалучае цяжкае металёвае гучанне з беларускай традыцыяй, карані якой ажно ў далёкім язычніцтве. У суботу, пачынаючы ад „сапорту” аркестру АБ-БЫ, „Тройцы”, усё мне падабалася. І украінскія „Гайдамакі” з меладычным казацкім рокам, і польская „R.U.T.A.” з чароўнай беларускай Настай Някрасавай ды мужыцкімі песнямі бунту, і шляхетная як віно блюзавая „Крама”, за якою на „Басовішчы” добра такі затужылі.

— Нас сюды не запрашалі мусіць гады чатыры, — кажа Ігар Варашкевіч. — Не тое, каб „Крама” хацела каму там дарогу пераходзіць і займаць чыёсьці месца, а ўсё-роўна было крыху крыўдна. Бо, незалежна ад многіх крытычных слоў у бок гэтай імпрэзы, ніхто нічога лепшага ў Беларусі не прыдумаў.

* * *

Прыемна было таксама назіраць за арганізатарамі. Як тыя маладыя людзі палавілі ўсе ніткі хаатычнага пачворку, якім ад самага пачатку з'яўляецца арганізацыя „Басовішча”, застанецца іхняй тайнай. Як валанцёры згуртаваліся вакол лідараў і як яны раздзялілі паміж сябе абавязкі — пра такое браты-палякі кажуць: „szacun”! Належыцца ён, безумоўна і фонду „Віла Сакратас”, які з аднаго боку ўзяў на сябе абавязкі адміністрацыйнага кадардынатара, а з другога даў свабоду маладым у іх артыстычных памкненнях і арганізацыйнай працы.







www.racyja.com

— Усе гады чуліся нараканні на арганізацыю фестывалю, я і сам у свой час не шкадаваў крытычных слоў, — прызнаецца Лявон Вольскі. — Але, калі добра падумаць, то чаго яшчэ чакаць ад арганізацыі студэнцкага мерапрыемства?

І мне здаецца, што за дваццаць пяць гадоў пара было прывыкнуць і да творчага хаосу, і да непрадказальнасці самой імпрэзы. Сёлетні выпуск і так надзвычай станоўчы прыклад у плане дысцыпліны на сцэне і парадку па-за ёй. Па-мойму, вырасла цікавае пакаленне маладых беларусаў Беласточчыны, амбітнае, адукаванае, якое рупіцца будаваць сваю генерацыйную ідэнтычнасць з дапамогай добрай беларускай музыкі і супольных пачынаў. А ўжо быў час, што, здавалася, Беларускае аб'яднанне студэнтаў нікому непатрэбнае. І было ж тых наракайлаў, што ўжо адпелі не толькі студэнцкую структуру, але і „Басовішча”. Дазволю сабе прысвяціць ім двухрадкоўе Хрыстафора Сяськевіча, кінутае ім са сцэны ў Барыку пасля песні „Радыяцыя”: „Паміраe, паміраe, памерці не можа. АБ-БА аркестр грае — барані нас Божа”! У тым ліку і ад сваіх наракайлаў.

Акрамя ўсяго, „Басовішча”, гэта яшчэ і прыгожы пазітыўны міф. Ведаюць пра яго нават тыя, хто на ім ніколі не быў. Былі спробы перасадзіць гэтую простую „правінцыйна-беластоцкую” падзею ў іншае месца, у тым і сталічна-менскае. І што? Figa z makiem! Гэта не перашкаджае розным аўтарытэтам выказвацца наконт фестывалю, зрэдзь часу яго хваліць, але пераважна бэсціць. А хто ўжо яго „не прыдумоўваў” і хто яго не „арганізаваў”! Адно мне няясна, як усе яны, навыклыя да вялікіх сцэн і канцэртных залаў, прафесійнай апаратуры і пяцізорачных гатэляў знайшлі гэтае глухое месца ва ўрочышчы Барык каля Гарадка, куды і мясцоваму пасля некалькіх бутэлек піва цяжка трапіць? І навошта яны сюды сунуліся?

* * *

Гэта была іронія. А цяпер сур'ёзна. Аляксандр Максімюк пісаў у альманаху „Правінцыя” (№№ 3-4, Беласток 2002, с. 4-11): „Такое музычнае мерапрыемства не змагла б прыдумаць ды арганізаваць ніякая іншая сябрына як толькі Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы. Тут неабходна адно растлумачэнне для нашых закерзанскіх суродзічаў. (...) Арганізацыю стварылі студэнты-беларусы, грамадзяне Польшчы, у пачатку 1980-х гадоў, на першай хвалі пераменаў у краіне. (...) „Басовішча” дало нам, беластоцкім беларусам, шмат у інтэлектуальным сэнсе. Яно сталася мостам, па якім мы здолелі выйсці без лішніх тлумачэнняў у шматлікія асяроддзі сваіх польскіх аднагодкаў і дзякуючы якому змаглі наладзіць культуралагічны дыялог з імі на роўных правах. „Басовішча”, праграмна не прэтэндуючы на нейкае выключнае месца ў беларускім культураствальніцтве, усё-ткі займела яго — як выказнік настрояў і памкненняў Маладой Беларусі. „Басовішча” нікога і нічога не збавіць. Але яно ёсць доказам, што беларусам часамі ўдаецца своечасова даспець і паспець за часам, ухапіцца за яго вастрыё”.

І не скалечыцца, дадам ад сябе. На заканчэнне яшчэ раз слова Лявону Вольскаму:

— Цяжка пераацаніць значэнне „Басовішча” для беларускай рок-музыкі. Хаця б у тым плане, колькі рускамоўных музыкаў схіліла яно да беларускай мовы. Кулінковіч, Міхалок, гэта толькі вяршыня айсберга. Таму незалежна ад тых ці іншых асабістых меркаванняў, гэта выключная з'ява ў беларускай культуры.

Жыве „Басовішча”!

**Мікола ВАЎРАНЮК**





# Ахвяравала за ўсіх нас

У мяне была адна абсалютная рэальная мара жыцця — паехаць у Маскву, дзе я ніколі не быў. Цяпер яна не збудзецца ніколі, таму што сама Масква мяне зусім не цікавіла і не цікавіць. Мне хацелася паехаць у вечную сталіцу зла і дзікунства толькі для таго, каб сустрэцца з адным чалавекам, а менавіта жанчынай, з якой ніколі не быў знаёмы асабіста, але якая была вельмі блізкай. Сустрэцца, каб задаць тыя пытанні, якія, як мне здавалася, ніхто яшчэ ніколі ёй не задаваў, хоць яна раздала безліч інтэрв'ю і каментарыяў шматлікім журналістам, каб атрымаць на гэтыя пытанні вычарпальныя адказы. Мара не збудзецца, таму што Валерыі Навадворскай больш няма на гэтым свеце. У пэўным сэнсе — гэта як страціць родную цётку, якую ты любіў яшчэ з дзяцінства і часта ўспамінаў яе словы. Перакананы, што многія ўспрынялі вестку пра смерць Валерыі Ільінічны менавіта так — праз асабістае перажыванне і душэўны боль.

Валерыя Навадворская нарадзілася ў беларускіх Баранавічах, пэўны час жыла там у бабулі, вырасла ўжо ў Маскве. Ужо з юнацтва стала дысідэнткай, распаўсюджвала антысавецкія ўлёткі, выступіла супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну, за што была арыштавана і прымусова змешчана ў псіхіятрычную лякарню-турму. Выйшла адтуль пасівеўшай ужо ў 22 гады, але не скарылася. Працягвала змаганне ва ўсіх магчымых формах, доўга пераследавалася. Лічыла сябе патрыёткай Расіі, імкнулася да стварэння еўрапейскай Расіі, верыла ў свой ідэал і змагалася за гэта ўсё сваё жыццё. Такія жанчыны як Навадворская нараджаюцца для краіны сапраўды раз у сто гадоў. Такой асобай для Беларусі была наша вялікая паэтка Ларыса Геніюш. Для Расіі, для ўсёй постсавецкай прасторы, такой была Навадворская, якую ніхто нам не заменіць. Менавіта яна была тым індыкатарам-чалавекам, па меркаваннях якога можна было вымяраць сваю пазіцыю, погляды, прынцыповасць і разуменне тых, ці іншых палітычных працэсаў.

Некалі мой першы духоўнік святар Віктар Данілаў даводзіў нам пра панятак «святая нянавісць» у хрысціянстве, найперш, канешне, у дачыненні да граху. Мне здаецца, што Навадворская мела менавіта такую «святую нянавісць» да чырвона-карычневай чумы. Усё жыццё яна змагалася супраць камунізму і яму падобных плыняў, супраць подласці і здрады. Выказвалася надзвычай катэгарычна, безапеляцыйна, але нейкай злосці, тым больш істэрыі, у яе ніколі не было. Рабіла гэта з дзіўна зачаравальнай ironіяй, прыводзіла надзвычай мастацкія вобразы. Яна сапраўды была хрысціянкай, хоць ніколі гэтага не афішавала. З біяграфіі вядома, што ў 1990 годзе ва ўзросце 40 гадоў хрысцілася і прыналежала да Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Уся наша публіцыстыка, усіх тых, хто вучыўся ў яе востраму і хвосткаму слову, разам узятая, вартая хіба адсоткаў дзесяць ад таго, што пісала яна. Глыбінны інтэлект, шырачэзная эрудыцыя, неверагодны сарказм, пранікнёная дасціпнасць і непахісная прынцыповасць — усё гэта яна — Валерыя Навадворская. Зачароўвала яе веданне гісторыі, параўнальныя характарыстыкі, цытаванне класікі.

Малаверагодна, што мы дажывем да таго часу, калі імем Валерыі Навадворскай назавуць вуліцы ў Маскве, Кіеве, Баранавічах ці Мінску. Хоць у Кіеве зараз і могуць. Навадворская ў гэтай вызвольнай вайне дэмакратычнай Украіны з імперска-злачыннай Расіяй выступіла на баку справядлівасці, выступіла за Украіну, публічна абвясціўшы крамлёўскім уладарам сваю вайну. Верагодна, што гэтага ёй не даравалі, хоць крамлёўскія вурдалакі крывадушна нават выказалі спачуванне блізкім памерлай. У іх вялікі досвед па фізічнай ліквідацыі іншадумцаў. Можна прыгадаць тут як яшчэ ў 2003 годзе быў атручаны таленавіты і прынцыповы светлай душы публіцыст і чалавек Юрый Шчакачыхін, як былі забітыя Анна Паліткоўская, Сяргей Магніцкі і дзясяткі іншых людзей, якія апынуліся на дарозе ў маскоўскай дыктатуры. Занадта мазоліла ім вочы і няўрымслівая Навадворская, якая нікога і ніколі не баялася. У кожным разе ўсё сваё жыццё Навадворская паклала на алтар свабоды паняволеных народаў савецкай імперыі зла. А, значыць, ахвяравала за свабоду кожнага з нас.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Жудасная прыватызацыя

У Беларусі будуць зноў прыватызаваць. Калгасы. Некалькі гадоў таму ўжо прыватызавалі — адзін! Ён займаў 2500 гектараў урадлівай глебы на мяжы Мінскай і Брэсцкай абласцей. Дзяржава не мела да яго ніякага дачынення. А гэта так быццам бы вырвалі вялікую дзірку ў ёй. Адтуліну, аднак, пасля некалькіх гадоў павучлівых намаганняў абласных бюракратаў, удалося залатаць. Калгас быў нацыяналізаваны. Незлічонае мноства калгасных і саўгасных дырэктараў, тысячы кіраўнікоў, брыгадзіраў і неадлучнага ад дзяржаўных прадпрыемстваў планктону нахлебнікаў уздыхнулі з палёгкай. Дзяржаву перастаў чавіць рак злоснай прыватызацыі. Дзяржаве вярнулася здароўе. Яго грамадзяне (дырэктары, кіраўнікі, брыгадзіры і паразітны планктон) зноў змаглі атрымліваць асалоду ад жыцця. Вярнулася бестурботнасць кіравання ў адпаведнасці з рэкамендацыямі абласных бюракратаў, спадзяванне на датацыі і ўпэўненасць, што ў час узмацнення палявых работ заўсёды можна разлічваць на кантынгент дарэмных рабочых: чыноўнікаў, студэнтаў і школьнай дзетвары. Таму што дзяржава хворая, калі прыватызуе сваю ўласнасць, выкідвае на брук адданых ёй дырэктараў і кіраўнікоў, дэкласуе іхніх годных жанок, разбурае дасягненні некалькіх пакаленняў кар'ерыстаў. Але рак, як той рак, не здаецца. Гэта няпроста, каб выкараніць яго з арганізма. Ну і вось, калі ласка, зноў будуць прыватызаваць! Так, па меншай меры, вынікае з нядаўняй прамовы прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які прыгразіў, што некамерцыйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы будуць прыватызаваны, калі на працягу шасці месяцаў не пачнуць атрымліваць прыбыткі. Ды можна быць упэўненым, што не пачнуць, таму што як тое, што на працягу многіх гадоў было дэмаралізаваным, пасіўным, расчараваным і бюракратызаваным, мае стаць прыбытковым? Прытым за шэсць месяцаў?

На гэты раз справа сур'ёзная. У Беларусі асновай сельскай гаспадаркі з'яўляюцца калгасы і саўгасы, якія павінны забяспечыць 98 працэнтаў сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны плацяць меншыя падаткі чым прамысловыя кампаніі, маюць нашмат больш таннае паліва і калійныя ўгнаенні, у дадатак атрымліваюць прамыя фінансавыя субсідыі з дзяржбюджэту. На жаль, па словах віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі, вытворчасць сельскай гаспадаркі Беларусі субсідзіруецца ў 49 адсотках. Так вось статыстычна кожны другі калгас або саўгас прыносіць страты, што кваліфікуе яго да... прыватызацыі.

Нагадаем тут лёс адзінага раней прыватызаванага калгаса. Быў ён прададзены прыватнаму інвестару ў 2005 годзе. Быў гэта — па дадзеных газеты «Комсомольская правда в Беларуси», — пілатажны праект узгоднены на дзяржаўным узроўні як спроба знайсці выратаванне для калгасаў без якіх-небудзь перспектыў выжывання. На месцы калгаса была заснавана сельскагаспадарчая фірма «Петкавічы». Упраўляючы ёю інвестар, пасля некалькіх гадоў барацьбы з беларускай адміністрацыяй, прадаў яе другому наіўнаму ў 2009 годзе. Але і яго перамагла бюракратыя. Пасля двух гадоў пазбавілі яго ягонай уласнасці. Прычына гэтага кроку тут не мае значэння, хоць для экспрапрыіраванага несправядлівая. Справа ў тым, што ўмяшанне дзяржаўных чыноўнікаў дасягала абсурду. Па словах інвестара, райкам патрабаваў ажыццяўлення дзяржаўных планаў надояў на адну карову — але ў той жа час не дазваляў вывесці са статка кароў, якія ўвогуле не давалі малака або не давалі надзеі на перспектыўна высокія надоі. Чыноўнікі матывавалі гэта тым, што дзяржаўныя дырэктывы з указаннем колькасці пагалоўя буйной рагатай жывёлы павінны таксама выконвацца прыватнымі фірмамі. Гэтак жа, як тыя, што тычацца забою. Інвестару загадалі рабіць яго ў Бярозе, якая знаходзіцца на адлегласці 180 км ад «Петкавіч», хоць у мястэчку Сноў, на адлегласці ад іх толькі ў 18 км ад фірмы, было выдатнае мясаперапрацоўчае прадпрыемства. Толькі што мястэчка было ў іншай вобласці, а на думку мясцовых улад, забаронены быў вываз мяса за межы вобласці. Вось і маеш!

Тыя вышэйапісаныя, але і неператічаныя тут з-за адсутнасці месца, бюракратычныя кур'ёзы прывялі да краху квітнеючае сельскагаспадарчае прадпрыемства. Ці змянілася што-небудзь з таго часу ў Беларусі? Так, сёння трэба прыватызаваць сотні нерэнтабельных калгасаў. Бюракратыя трымаецца моцна. А што на гэта скажа прэзідэнт Лукашэнка? Вось, прыватызацыяй напалохаў.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Сёмая Актава

У сёмы раз у Беластоку і ў больш за дваццаць мясцовасцях рэгіёна доўжыцца Міжнародны фестываль музыкі, мастацтва і фальклору «Падляшская актава культур». Як бачна, у гэтым годзе крыху больш сціплая, але, як і кожны год, прыцягваючая натоўпы, асабліва на плошчу перад беластоцкай ратушай. Гэтая падзея — «дзіцё» Анджэя Дырдала, шматгадовага дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры (ВААК). Гэта ён быў, ёсць і мае быць — як сказаў у час папярэджваючай сёлетні фестываль прэс-канферэнцыі — на працягу не менш трох гадоў (да юбілейнага выпуску) яго дырэктарам. Ён з'яўляецца ініцыятарам праекта, нязменным аўтарам яго сцэнарыя і старшынёй Мастацкай рады, на чале якой дагэтуль стаяў этнограф і культурны аніматар Зыгмунт Цясельскі.

— Гэты выпуск, вядома, не горшы, чым папярэднія. Аб узроўні я спакойны, фінансавыя рэсурсы, аднак, не дазваляюць нам запусціць вялікай гарматы. Мы спадзяемся, што горад Беласток таксама нас, нарэшце, дафінансуе.

З-за адсутнасці дастатковай колькасці грошай, не ўсе выканаўцы, што былі адабраны Мастацкай радай, былі запрошаны. Так было і са знакамітым ансамблем тамбурыстаў з Кіева. У агульнай складанасці, на Актаву было выдзелена 600 тыс. зл. з бюджэту Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якому ВААК падлягае, ды Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны.

Цяперашні дырэктар ВААК, а раней намеснік Анджэя Дырдала — Цэзары Мелька да інаўгурацыі мерапрыемства сказаў: «Гэты фестываль з'яўляецца таксама формай міжнароднага супрацоўніцтва ў рэгіёне і мостам супрацоўніцтва, які паказвае, якія мы талерантныя і адкрытыя».

У сваю чаргу, падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі падкрэсліў:

— Падляшская актава культур з'яўляецца ўнікальным месцам сустрэчы мастакоў і дыялогу з гледачом. Я думаю, што ідэя фестывалю многіх народных культур невыпадкова нарадзілася на Падляшшы. Тут ад стагоддзяў кантактуюцца розныя народы, культуры і рэлігіі. Тут разнастайнасць злучае, а не дзеліць. На нашым пакаленні ляжыць асаблівая адказнасць за тое, каб здабыткі нашых папярэднікаў, якія належаць да розных культур, былі захаваны і папулярызаваны.

У гэтым годзе да ўдзелу ў Падляшскай актаве культур Мастацкая рада запрасіла дваццаць тры каманды. Ужо ў папярэднія гады адмовіліся ад першапачатковай ідэі прадстаўляць фальклорныя калектывы меншасцей Падляшша, хоць назва з указаннем ліку іх прысутнасці засталася. Арганізатары, аднак, дбаюць, каб прыбывалі групы з краін, якія маюць дачыненне да тутэйшых меншасцей. І так, у гэтым годзе з Беларусі выступяць «Вязанка» з Мінска і «Талака» з Ліды. Першы — гэта ансамбль песні і танца, заснаваны ў 1972 годзе. Групу ў асноўным складаюць маладыя людзі. Танец суправаджае інструментальны ансамбль, які таксама прысутнічае са сваёй уласнай праграмай. Другі працуе з 1995 года і складаецца з трох груп: хору, балету і аркестра народных інструментаў. Рэпертуар «Талакі» ўключае стылізаваныя песні і танцы Беларусі, а таксама вакальныя і танцавальныя кампазіцыі, узноўленыя на падставе беларускіх абрадаў, у тым ліку «Валачобнікаў» ці «Лявонісі».

Акрамя таго, на аснове планаў (я пішу гэта перад пачаткам фестывалю), на сёмую Актаву запрошаны мастакі м.інш. з Македоніі, Украіны, Расіі, Балгарыі, Адыгеі, Літвы, Грузіі. Групы даюць канцэрты ў рэгіёне, у тым ліку ў Бельску-Падляшскім (туркі, македонцы), Гарадку (туркі, сербы), Гайнаўцы (адыгейцы), Нараўцы (аўстрыйцы, «Вязанка»). Упершыню фестываль трапіць у гэтым годзе ў Нурэц-Станцыю, дзе на стадыёне выступяць калектывы Босніі і Герцагавіны ды акардэаніст з Цеханоўца Аркадыюш Кавалец. Не зможа паказацца, як гэта было раней, у Сувалках і Васількаве.

«Ніва» над Падляшскай актавай культур трымае патранаж.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

*У папярэдніх «Вачах» трапілася памылка ў друку. Сказ, завяршаючы тэкст прысвечаны спрэчнай рэкламе на Гарадоцкім цэнтры культуры, несумненна, павінен гучаць: «Ну, можа быць, прымаючы гмінны характар гэтага выпадку, па меншай меры публікацыю зместу дамовы», а не як было: «...зместу размовы».*

Брэнд «**Xoroshe**» **Магдаліны Петрук** мае шанц заваяваць не толькі Беласток і Падляшша, але і ўсю Польшчу, і, верагодна, выйсці за яе межы. Ідэя на першы погляд простая: выкарыстаць традыцыйны дызайн Падляшша (беларускі, мясцовы), а ў больш шырокім плане польска-беларускага пагранічча ў модзе, асабліва ў штодзённай. Прафесійна выкананы, некалькіхвілінны кліп з удзелам непрафесійных мадэляў, якія прадстаўляюць уборы кампаніі «Xoroshe» ўжо заваяваў інтэрнэт, беручы пад увагу рэйтынг гледачоў. Неўзабаве запускаецца інтэрнэткрама www.xoroshe.pl. Пакуль што інтэрнэтная, але неўзабаве таксама ў Беластоку, будзе стацыянарная. У канчатковым рахунку, з адгалінаваннем таксама ў сталіцы.




# Час для **нашага** — для **харошага**

Магдаліна Петрук — дачка вядомага графіка Уладзіслава Петрука, аўтара альбома «Архітэктура і прырода Падляшскага ваяводства». У апошні час стала сакратаром рэдакцыі штомесячніка «Czasopis». Скончыла паланістыку ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Штудзіравала некалькі гадоў этнаграфію ў гэтай вучэльні, але кінула, таму што — як яна кажа сёння — гэтая спецыяльнасць аказалася занадта статычнай. Звязаная з Музеем малой айчыны ў Студзіводах Дарафея Фіёніка і тутэйшымі дзеяннямі, ажыўляючымі беларускую культуру і мясцовыя традыцыі: абычаі, абрады, звычаі, мову...

— Этнаграфія ва ўніверсітэце гэта не было тое, што мне падыходзіла. Цяжка было мне пераканацца, каб ездзіць у Новы Тарг, рабіць там даследаванні або навуковую працу «ў пыле» мёртвых экспанатаў. У Студзіводах робім даследаванні пастаянна, натуральна, увесь час размаўляючы з людзьмі. Дарафей Фіёнік мае цэласны, антрапалагічны падыход да традыцыйнай культуры, а не толькі строга музейны. Культура вакол яго жывая, у тым ліку ў яго сям'і, сярод дзяцей, усіх, хто прыязджае туды і ў тым жа месцы. Людзі прыязджаюць у Студзіводы, глядзяць на вясковую хату і кажуць: «О, якая прыгожая рэканструкцыя». А гэта не рэканструкцыя, а проста хата Дарафеевага прадзеда.

У кватэры Магды куды ні глянь — рукадзелле, старыя беларускія падляшскія і палескія спадніцы, ручной вышыўкі кашулі, а ў цэнтральным месцы драўляныя кросны:

— Маім захапленнем была і ёсць традыцыйная культура. У Студзіводах добра я пазнаёмілася з нашай, тутэйшай. Я таксама сама даведалася, хто я. Кожнаму жадаю, каб так добра зведаў Падляшша з боку багатай гісторыі і выдатнай традыцыі. Некаторым пашанцавала, каб пазнаць гэта ў сябе дома, як Дарафеевым дзецям, але некаторыя з іх адрэзаны ад сваіх каранёў, не маюць бабулі ў вёсцы, жывуць у горадзе і хутка ўніфікуюцца ў аднастайную масу. Акрамя так разуметай антрапалогіі, маім другім запалам з'яўляецца дызайн. Я графік, на працягу многіх гадоў працую ў якасці графічнага дызайнера і мой тата таксама ж графік, пад яго пільным вокам я развівалася і ўмацоўваюся ў далейшым у галіне кніжнай графікі і тыпаграфіі. Як кульмінацыя гэтых маіх запалаў і ў прынцыпе іх яднанне, узнікла «Xoroshe». Здаўна я цікавілася ткацтвам, вышыўкай, вышывала, здаўна ведала, што падляшскі дызайн прыгожы, што трэба яго прасоўваць, што гэта сорам, што ў нашым Бельску-Падляшскім дзяўчаты выступаюць апранутыя ў горскія строі, у спадніцах «Cleo» з кліпа Данатана, а не ў сваіх, што нашы калектывы спяваюць у мінскіх касцюмах, якія вырабляюцца ў тысячах штук, што гэтак жа выглядае калектыў з Віцебска, як у нашым Гарадку.

## І каб квітнела рукадзелле

Ідэя «Xoroshe» за Магдай хадзіла на працягу некалькіх гадоў, пачала складвацца, калі яна трапіла ў Музей малой айчыны Дарафея Фіёніка, дзе займаецца пытаннямі друку і ўдзельнічае ва ўсіх яго мерапрыемствах:

— Пераломны момант для мяне? Здаецца тады, калі апранула ў Беластоку сваю палескую, векавую саматканую спадніцу і пайшла ў ёй у тэатр. Я адчувала сябе ў ёй выдатна. Гэта быў момант, калі я вырашыла вывесці гэтую моду з вёскі і скансэна.

Непасрэдным штуршком да паўстання фірмы, аднак, стала рашэнне прыняць удзел у Акадэмічным конкурсе прадпрымальніцтва «Мая ідэя — мой бізнес», арганізаваным Беластоцкай палітэхнікай, падтрымліваючым ідэі ўласнага бізнесу. Для яго патрэб Магда — з Эвелінай Вышкоўскай, таксама студзіводскай выхаванкай родам з Ягуштова, цяпер жыхаркай Варшавы — вырашылі сабраць ідэю і распрацаваць бізнес-план. Праект «Xoroshe» заняў другое месца. Пераможца (выйгрыш: 50 тысяч злотых) быў толькі адзін — хлопцы з Палітэхнікі:

— Пасля гала-фінала члены камісіі патлумачылі нам, што на абрадах працягваўся ў справе «Xoroshe» разлютаваны бой, у рэшце рэшт толькі некалькі пунктаў мы страцілі з хлопцамі з IT-індустрыі. Затым я рушыла далей, каб, аднак, рэалізаваць праект. Сама афарміла фінансаванне.

Ад двух тыдняў «Xoroshe» — зараз афіцыйна кампанія аднаго чалавека, але з поўным рэзервам прафесіяналаў. Пакуль строі можна набыць праз інтэрнэткраму www.xoroshe.pl. Неўзабаве стацыянарныя крамы будуць адкрыты ў Беластоку, пэўна і ў Варшаве, можа ў Бельску-Падляшскім. Для куплі будуць поўныя калекцыі трох модавых ліній. Напэўна: гарадская — для моладзі (кашулі, сукенкі, street-wear — адзежа на кожны дзень) і лінія з традыцыйнымі касцюмамі з ручной вышыўкай, рэканструяванымі па праекце вёскі, рэгіёна, найбліжэйшага наваколля.




Але «Xoroshe» гэта не толькі рубашкі і сарочкі, гэта таксама сукні сучаснай кройкі, з ручной вышыўкай па падляшскіх узорах:

— Я збіраюся таксама спрыяць падляшскім рамёствам, такім, як кошыкапляценне спадарыні Зоі Майстровіч з Рэдут, выцінанка, традыцыйны рытуальны ручнік... Калісь Студзіводы былі сталіцай валення, зараз ніхто такіх валёнкаў там не робіць. Я веру, што калі на Падляшшы людзі змогуць зноў прадаваць сваё рукадзелле з прыбыткам, то яно будзе квітнець. Так было заўсёды з рамёствамі. Тут не гаворка пра майстар-класы для «паняў ад культуры», якія навучацца за два тыдні ткаць на кроснах і выткуць за сваё жыццё адзін дыван, але каб людзі маглі рабіць гэта прафесійна, на поўны працоўны дзень, маглі за гэта ўтрымацца і былі ў гэтым штораз лепшымі. Тады і толькі тады традыцыйныя тэхнікі ткацтва выжывуць яшчэ некалькі пакаленняў, а не кончацца як запыленыя экспанаты мінулых эпох.

## Дастаць з небыцця

— «Xoroshe» гэта гарадская мода пагружаная ў нашым, падляшскім кантэксце традыцыйнай культуры. Людзям народныя касцюмы, дарэчы, генеральна традыцыйная матэрыяльная культура ў цэлым, асацыюецца з чымсьці штучным: фэстам, пераапрананнем, а не апрананнем. А гэта ж было штодзённае адзенне! Ну, мабыць, не ў поле, але святочнае, па меншай меры тыя харошыя ўборы, на якія я спасылаюся ў сваіх праектах, якія жанчыны насілі на вяселле або ў царкву. Ільняныя кашулі выйшлі з моды яшчэ да вайны. Гэта была, аднак, мода. Жанчыны шылі андаракі, сарочкі, капіравалі ўзоры адна ад аднае і іх вышывалі. Гэта было прыгожае і моднае. Рабілі тое ж самае, што сучасныя падлеткі. І ў гэтай патрэбе не бачу разрыву паміж пакаленнямі, эпохамі. Можа быць, няшмат сённяшніх дзяўчат захоча выйсці на вуліцу ва ўборы па поўнай рэканструкцыі: спадніцы да зямлі, у доўгай кашулі дакладна так, як нашы бабулі, але элементы гэтага дызайну можна і трэба выкарыстаць, таму што гэта проста прыгожа. А адначасова будзе папулярызаваць і распаўсюджваць веды аб нашай агульнай падляшскай спадчыне!

У камп'ютары Магды сотні фатаграфій з гатовымі ўжо строямі:

— Я выкарыстоўваю абшары, якія проста ведаю. Большасць узораў бяру з ваколіц Бельска-Падляшскага, ад Гарадка і Сямятыч, дзякуючы Дарафею Фіёніку і Аліне Дэмбоўскай з філіяла Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім, этнаграфічным энцыклапедыям, беларускім кнігам. Старэйшыя тканыя ўзоры з'яўляюцца агульнымі для большай часткі Падляшша і Беларусі. Для мяне Падляшша плаўна злучаецца менавіта з Палессем. Ваколіцы Драгічына, Сямятыч, Люблінщчына — гэта арэал палескіх узораў. Гэта хутчэй плоская вышыўка, кветкавыя ўзоры, пераборы, і тканыя вышыўкі, іх я таксама выкарыстоўваю ў сваіх праектах. Шмат ездзіла я па Палессі. Там ткацкая традыцыя лепш захавалася і лепш яе даследаваць. Там інакш падыходзяць да этнаграфіі, чым у нас. Падляшша з пункту гледжання народнага касцюма занядбанае. З маіх шматгадовых назіранняў вынікае, што польскія этнографы не вельмі гэтымі элементамі падляшскага дызайну займаюцца, таму што цяжка ім уключыць іх у атлас польскіх народных касцюмаў (вышываныя крыжыкам, вiдавочна, не сустракаюцца ў іншых польскіх рэгіёнах), а беларускім этнографам тое Падляшша на самай справе нецікавае, таму што маюць сваю Беларусь багатую ў гэтых адносінах для даследавання і апісання. Вялікую працу правяла ў гэтай галіне Вольга Лабачэўская, вядомая этнограф, якая абараніла доктарскую дысертацыю «Беларускі народны тэкстыль» (выпушчаную ў выглядзе кнігі), а год таму выпусціла выдатную кнігу з беларускімі трафарэтамі: вышыўкамі, кройкамі, усім, што патрэбна, каб зрабіць традыцыйны нарад. Нават на аснове гэтай кнігі можна заключыць, што тыя ж самыя ўзоры, якія з'яўляюцца агульнымі ў прыгранічных вёсках пад Гроднам ці Ваўкавыскам, былі верагодна, з другога боку мяжы, у Крынках Рудаках, Коматаўцах або Азяранах. Калі той строй выглядаў там таксама — гэта быў

працяг ☞4

## Хлеба і відовішчаў

Часта нават сабе не ўяўляем, у якой ступені карыстаемся вопытам старажытнай Рымскай імперыі. Прынцыпы многіх галін нашага жыцця былі распрацаваны яшчэ ў перыяд антычнасці. Адзін з іх — шырока пашыраны ў грамадскім жыцці дзяржавы прынцып *panem et circenses* (хлеба і відовішчаў). Рымскія імператары, каб свабодна ажыццяўляць свае палітычныя інтрыгі і задумы, патрабавалі спакою ў дзяржаве, а паколькі простанароддзю дастаткова двух рэчаў, дык раздавалі збожжа з дзяржаўных складоў і арганізавалі народу відовішчы: а то змаганні гладыятараў, а то ганенні на хрысціян, а то іншыя мерапрыемствы на цыркавых арэнах. У выніку імператары заставаліся пры ўладзе, карыстаючыся падтрымкай удзячнага народу — да дня, калі прыйшлі варвары і ўсё правалілася.

Сёння хлеба ў нас удосталь. І нават раздаваць не трэба, бо народ яго сам купляе за свае грошы. Застаецца толькі арганізаваць відовішчы. На шчасце народ ужо прывучаны захапляцца футболам, наўумымі турнірамі, ахвотна ўдзельнічае ў шматлікіх фэстах, днях гарадоў і вёсак, у бясплатных масавых канцэртах.

Аднак трэба думаць аб заўтрашнім дні. Для гэтай мэты неабходна прывіць дзецям адпаведныя навыкі, і то ад наймалодшых гадоў. Я дасканала назіраю гэта на прыкладзе дзяцей маіх суседзяў. Ужо з дзіцячага садка — праз пачатковую школу і гімназію — цягнецца за імі цэлы шэраг святкаванняў і мерапрыемстваў. А вось мерапрыемствы апошняга месяца перад канцом школьнага года.

Дзіцячы садок: Дзень маці, сямейны фэст, Дзень дзіцяці (вогнішча, грыль, надзіманыя замкі, трампліны інакш батуты), і ўрэшце ўрачыстае заканчэнне дашкольнага года і развітанне з „выпускнікамі".

Пачатковая школа: завяршэнне навукі ў 6 класе (паўмесяца да канца школьнага года), спалучанае з балем, сямейны фэст, Дзень дзіцяці, Дзень бацькі. Прытым дзве экскурсіі: адна ў Варшаву — традыцыйная школьная паездка з даволі амбітнай праграмай; другая — экскурсія ў парк юрскага перыяду „на дыназаўры" — не ведаю куды, бо не мог дапытацца пра назву мясцовасці; ну і ўрачыстае ўручэнне школьных пасведчанняў.

Гімназія: тут мерапрыемстваў менш, бо кіруе ёю разумны дырэктар. Ведаю, што адбыліся толькі гімназічны баль для трэціх класаў і ўрачыстасць заканчэння школьнага года.

Што будзе ў сярэдніх школах гэтага яшчэ не ведаю, але пэўна будуць „васямнаццаткі", „стаднёўкі" і іншыя забаўляльныя імпрэзы, так як у Пушкіна ў „Яўгеніі Анегіне": „Чтоб не измучилось дитя, / Учил его всему шутя, / Не докучал моралью строгой...". А пасля, у дарослым жыцці, сам мёд: дзень нараджэння (таксама новая з'ява, бо да гэтай пары хрысціяне адзначалі толькі імяніны), імяніны, хрысціны, першыя споведзі або камуніі, фэсты, дні гарадоў і вёсак, мундыялі, алімпіяды і г.д. і т.п. — у выніку паволі ператвараемся ў грамадства крэцінаў, якому плюююць у твар, якога абманваюць і абкрадаюць. А мы цешымся аб'едкамі з панскага стала і да таго з ахвотай галасуем на іх.

Не ведаю як хто, але я не хачу жыць як сытая скаціна. Чалавек — гэта штосьці большае, чым накормленая і дагледжаная жывёла. Толькі хто з нас аб гэтым памятае?

**Марк ЦЫБАРТ**

# БУЛАТ адчыняе дзверы

Новая, выгодная зала толькі што аднаўленага сакольскага кінатэатра „Сокал" была бітком набітая народам. Прычына — І Міжнародны фестываль бардаўскіх песень імя Булата Акуджавы.

„Чула я гэтыя песні, іх заўсёды слухала мая маці, — прызнаецца трыццацігадовая Наталля з Саколкі. — Як жа ж іх не разумець, я ж праваслаўная. Акуджава рашуча лепш гучыць па-руску, чым па-польску, таму я тут. Людзей сабралася шмат, бо і руская мова ў Саколцы яшчэ жывая, асабліва ў праваслаўным асяроддзі", — мяркуе Наталля,



■ Марыля з Саколкі і Ніна Тацієва з Масквы

Шасцідзесяцігадовы Януш — сапраўдны фанат жанру. У ягонай хатняй фанатэцы восем аналагавых кружэлак Акуджавы. „Калісь слухаў, потым грамафон сапсаваўся. Цяпер я ў працэсе закупкі новага грамафона, — кажа. — Гэтых кружэлак слухала яшчэ мая маці, я імі жыў".

Марыля, якой за пяцьдзесят, прыйшла ў кінатэатр з кветкамі. „Песні Акуджавы гэта маё юнацтва, — прамаўляе дрыготкім ад хвалявання голасам. — Што яшчэ можна было спяваць у час веснавых і летніх рэйдаў?" — ставіць рытарычнае пытанне.

Сакольскіх аматараў песень Булата Акуджавы пажадалі прывітаць, між іншым, прыбылыя з Масквы Галіна Дубасава — прадстаўніца Сусветнага фонду Булата Акуджавы, Ніна Тацієва — з Музея Булата Акуджавы і Аляксандр Цыркель — дырэктар Маскоўскага фестывалю Булата Акуджавы. Сабраныя выслухалі песень на некалькіх мовах у выкананні бардаў з Польшчы, Арменіі, Расіі і Украіны. Стэла Зубкава прыехала з Луганска, а Ігар Жук — са Львова. Паводле слоў галоўнага арганізатара фестывалю Анатоля Баравіка, прадстаўнікі Украіны пачаткова глядзець на сябе не маглі. „Адмовіліся нават ад супольнага падарожжа на фестываль, хаця фінансава ім гэта было б вельмі выгадна. Цяпер іх не пазнаць. Акуджава адчыніў дзверы іх сэрцаў. Спявачка з Луганска ў Польшчы ўпершыню. Яна спадзявалася сустрэць тут нейкіх праслаўленых тамашнімі СМІ польскіх фашыстаў. Замест таго папала ў асяроддзе ўражлівых, добрых людзей. І ў тым справа", — з задавальненнем падсумоўвае Анатоль Баравік.

У загалоўку фестывалю — Гайнаўка, месца нараджэння спадара Баравіка. Тут жывуць яго сябры, тут ён пачаў спяваць Акуджаву. „З аднаго боку проста, а з другога складана рабіць фестываль у Варшаве, — тлумачыць ён, — таму што іх там тысячы. Тут гэта вялікае здарэнне. Жывем у грамадстве, якому ўсходняя культура вельмі па душы. Але Булата добра прымуць і ў іншых частках Польшчы. Доказам таму з'яўляецца нашае апошняе здарэнне ў Варшаве. Вольга Акуджава — патрон нашага фестывалю забыла ўзяць з сабой рэцэпт на лекі, якія ёй толькі што скончыліся. Увайшоўшы ў кабінет дырэктара набітай людзьмі амбулаторыі я запытаў ці ведае Акуджаву. Калі даведаўся, што пад яго дзвярыма стаіць удава вялікага спевака, замоўк ад уражання. Напэўна яшчэ доўга будзе ён успамінаць гэта. Булат сапраўды мне, як арганізатару фестывалю, адчыняе дзверы. Людзі дапамагаюць транспартам, начлегамі, харчаваннем. Усе мною сустраканыя людзі прызнаваліся ў адчуванні абавязку перад вялікім бардам. У свой час ён падарыў ім шмат цяпла і дабрыні. Фестываль гэта таксама шанц для Саколкі і іншых гарадкоў, у якіх ён адбываецца", — сцвярджае арганізатар.

Кіраўнік сакольскага кінатэатра Павел Жук шанц прыняў з задавальненнем. „Ні хвіліны я не задумваўся над гэтай прапановай, — прызнаецца. — Я абяцаў арганізатарам зрабіць усё як найлепш. Думаю, справіўся някепска. У фае кінатэатра наш працоўны калектыў сарганізаваў выстаўку здымкаў і біяграфічную нотку пра вялікага барда. Колькасць прыбылых на канцэрт сведчыць пра голад жыхароў Саколкі на гэтага роду мерапрыемствы. Нашае кіно гэта не толькі фільмы, у нас таксама прыгожая сцэна, якой з ахвотай карыстаемся".

Усіх уваходзячых у кіназалу арганізатары, апранутыя ў гала-вопратку, віталі ўласнаручна спечанымі булачкамі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

З ☞ працяг

# Час для нашага — для харошага

адзін рэгіён. Народны касцюм Падляшша пакоіцца ў свайго роду нябыце. Аліна Дэмбоўская з Філіяла Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім шмат гадоў займаецца збіраннем абрадных ручнікоў на Бельшчыне. Дарафей Фіёнік у 2005 годзе выдаў «Народны касцюм беларусаў Падляшша», у якім як першы з архіўных здымкаў дакладна зрэканструяваў падляшскі ўбор. Цяпер яго носяць удзельніцы ансамбля «Жэмэрва» Анны Фіёнік. Зараз гэта становіцца трохі больш папулярным. Ужо, напрыклад, «Падляшанкі» з Гарадзіска маюць падляшскія строі, традыцыйныя жаночыя чапцы. «Хутар» якраз сабе шые пагарадоцкія строі, зрабілі рэканструкцыю. Усё больш і больш калектываў пачынае ставіць на сапраўднасць касцюма, а не на тыя мінскія, машынныя, фэставыя... страшныя.




## Гэта рух супраць

— Асабліва ва ўмовах усё большай глабалізацыі, калі наш велізарны свет залівае масавая вытворчасць: усюды Coca-Cola, MacDonald..., у чалавека з'яўляецца натуральная патрэба належаць да вызначанага месца, да сваёй малой радзімы і выяўлення гэтага, а строй з'яўляецца добрым спосабам паказаць, хто я і адкуль я, і што важна для мяне. «Xoroshe» таксама рух супраць, адказ на тое, што мы не ўсе вандроўнікі, грамадзяне свету, і што не кожны такі самы. Людзі гатовыя прадэманстраваць тое, што яны з Падляшша і што яны ганарацца гэтым. Падляшша, звязанае з традыцыйнай сваёй культурай, у тым ліку тутэйшым — беларускім дызайнам, можа лёгка канкураваць з лавіцкім, горскім, кашубскім.

«Xoroshe» арыентавана перш за ўсё на маладых людзей.

Ці ў маладых людзях досыць адвагі, каб у горадзе, у Беластоку, праявіць сваю беларушчыну строем?

— Рашуча так. Я бачу гэта нават на маіх маладых мадэлях, якія ўдзельнічалі ў кліпе (вы можаце паглядзець яго на вэб-сайце YouTube). Нават былі зачараваныя. Ахвотна апраналіся ў поўныя касцюмы. Адной з іх, з Бельска, я сказала, што, магчыма, так выглядала яе пра- або прапрабабуля. Стала перад люстэркам, цешылася, рабіла сабе здымкі сельфі ў падляшскім строі.

Мадэлькі і мадэлі, якія ўдзельнічалі ў кліпе прасоўваючым «Xoroshe», з мадэляваннем раней не мелі справы. Магчыма, таму яны вельмі натуральныя, у той час арыгінальна ўпісваюцца ў кантэкст прасторы цэнтра Беластока:

— Усе мадэлі з Падляшша: з Беластока, Бельска, Супраслі. Мая сваячка, напрыклад, прывяла дзвюх сваіх сяброваk, сваячка Евы — калегу з мастацкага ліцэя. Ці яны беларусы? Я не распытвала. Усе, напэўна, з Падляшша. Тут у большасці людзі як не ў гэтым, то ў папярэдніх пакаленнях бабуля ці дзядуля былі праваслаўнымі. Маладыя людзі ўжо так не адчуваюць гэтага падзелу: беларус — паляк. Яны адчуваюць Падляшша як тканку, адзінства. Няма такой спадчыны, як у пакаленні нашых бацькоў: гэтая вуліца наша, і гэтая ваша. Этнічна польскія дзеці не маюць праблем прыняць беларускую спадчыну як сваю ўласную. Проста ў гэтым жывуць. Магчыма, многія не заўважаюць на Падляшшы ясна, што яны беларусы, але не адмаўляюцца ад гэтай спадчыны. Хопіць паслухаць таго, што яны слухаюць у аўто: як не дыска-пола, дык, хутчэй, не амерыканскую сечку, а якраз «рускія», усходнія хіты. Тое ж самае пры вогнішчы. Усприймаюць падляшскую беларушчыну як сваю.

Чаму такая назва?

— Каб вылучыць падляшскасць. Гэтае слова ў такой форме выступае толькі ў падляшскай мове, не выступае ва ўкраінскай, беларускай і рускай мовах. Да назвы брэнду я пакарысталася кірылічным «х», каб падкрэсліць нашу ўсходнясць і тое, да якой мы належым культурнай прасторы. Традыцыйная культура з'яўляецца культурай рэгіёна. Не мае нічога супольнага з дзяржаўнымі межамі, з нацыяналістычнымі катэгорыямі. Паміж культурамі немагчыма паставіць яркую, выразную мяжу з чырвона-белых стоўбікаў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



■ Таблiцы на старажытнаяўрэйскай мове ў канале пад дарогай



■ Спадар Віталь з суседзямі

# Дарога з яўрэйскіх надмагілляў

**Каб не планы перабудовы дарогі з Трасцянкі ў Маева, ніхто не даведаўся б, што фрагмент шашы на гэтым жа адрэзку быў зроблены з яўрэйскіх надмагілляў. Улады гміны і Падляшская ўправа ваяводскіх дарог маюць вырашыць, што зрабіць са старымі жыдоўскімі мацэвамі.**

Дарогу з Трасцянкі ў Маева перасякае шаша Янаў — Саколка. На гэтым скрыжаванні заўсёды было многа дарожных аварый, таму жыхары вёскі ўцешыліся, калі было прынята рашэнне, што ў гэтым жа месцы паўстане кругавая развязка. Аднак пры межаванні адзін з жыхароў Трасцянкі звярнуў геадэзісту ўвагу, што якраз у канале пад дарогай відаць надпісы на старажытнаяўрэйскай мове.

— Я помню, маючы восем гадоў, што тут рабілі дарогу, — кажа спадар Віталь з Трасцянкі. — Таксама памятаю, колькі мацэваў прывезлі, каб яе зрабіць. Ніколі аб гэтым не гаварылася ў вёсцы, але цяпер я ўжо не вытрымаў.

Да сёння добра відаць надпісы на старажытнаяўрэйскай мове на ствале канала. Жыхары недаверліва прыглядаюцца надпісам — не ведалі, што столькі гадоў хадзілі па яўрэйскіх надмагіллях.

— Я ніколі не заглядаў у гэты канал, не ведаў, што зрабілі кавалак дарогі з гэтых пліт, — кажа адзін з жыхароў Трасцянкі.

Людзі з Трасцянкі быццам з недаверам прыходзяць у тое месца і заглядаюць у канал, доўгі на некалькі метраў, каб упэўніцца, што прычына затрымання будовы так патрэбнага кругавога скрыжавання сапраўды сур'ёзная.

— У нашай вёсцы ніколі яўрэяў не было. Маці мая расказвала, што яшчэ даўным-даўно стаяла тут на ўскраіне вёскі жыдоўская карчма, — успамінае спадар Віталь. — Пасля вайны ні ў Саколцы, ні ў Янаве не было ніводнага жыда. Можа таму так і сталася, што ніхто не пільнаваў магілак.

Пакуль што стрымалі работы пры перабудове дарогі з Трасцянкі ў Маева. Чакаюць вырашэння справы яўрэйскіх надмагілляў.

— Тая дарога не гмінная, а ваяводская, — тлумачыць войт Янаўскай гміны Збігнеў Дзедзіцкі. — Таму справай павінны заняцца адпаведныя ваяводскія ўстановы. Калі не зоймуцца, тады гміна возьме яе ў свае рукі. Магчыма, даведаюцца з якога могільніка былі прывезены гэтыя пліты. Аднак хочам, каб яны знайшлі сваё месца на яўрэйскім могільніку ў Янаве.

Жыдоўскі могільнік у Янаве, падобна як і ў большасці мястэчак Падляшша, вельмі запушчаны. Каб не дошка, якую паставіў тут лакальны дзеяч Лех Крук, многія не ведалі б нават, што ён знаходзіцца ў тым месцы. Аднак улады Янаўскай гміны, хаця абвінавачваюць за такі стан могільніка яўрэйскія абшчыны, хочуць яго ўпарадкаваць, каб выказаць сваю павагу для меншасці, якая даўней засяляла гэтую тэрыторыю.

— Гэта сумна, што надмагіллі апынуліся ў такім месцы, — кажа войт Збігнеў Дзедзіцкі. — Пасля вайны мацэвы часта выкарыстоўваліся ў якасці будаўнічага матэрыялу. Людзі забіралі іх, пракладалі тратуары, рабілі тачылкі. Гэта вельмі сумная справа, але мела яна месца не толькі ў нашай гміне.

Кругавой развязкі ў вёсцы не будзе, пакуль не будзе вырашана справа з яўрэйскімі надмагіллямі. Хаця на гэтым адрэзку дарогі часта здараюцца дарожныя транспартныя здарэнні, спадар Віталь, дзякуючы якому аб справе стала гучна, цешыцца, што ўрэшце з надмагіллямі «зробяць парадак».

— Цяпер усе даведаліся, што ляжыць пад нашай дарогай. У вёсцы ведаюць, у гміне ведаюць, нават у свеце ведаюць. Гэта таксама людзі былі і трэба іх ушанаваць.

**Тэкст і фота Улі ШУБЗДЫ**

# Хто падбае?

У траўні г.г. адзначаўся юбілей дзесяцігоддзя далучэння Польшчы да Еўрасаюза. Аб бляcках і ценях нашага партнёрства з еўрасаюзнымі структурамі можна весці шматлікія спрэчкі. Тыцчыца гэта перш за ўсё размеркавання фінансавых сродкаў паміж рэгіёнамі краіны на канкрэтныя мэты. Прыклад кантрастаў у сельскай гаспадарцы бачны простым вокам...

Сяляне карыстаюцца, напрыклад, даплатамі да вырошчвання экалагічных пладоў, лесапасадак і т.п. Чаму затым водным суполкам не хапае сродкаў на меліярацыйныя праекты? Яны ж «спрадвечна» знаходзяцца ва ўмовах крызісу. Не ачышчаюцца абязводжвальныя канавы і шлюзы на сенажацях, не абкошваюцца берагі рэчак. Праўленні водных суполак тлумачаць, што членскія ўзносы сялян не пакрываюць выдаткаў. Ці адказны міністр не мог бы затым прызначыць належнай сумы на добраўпарадкаванне рэк? Усё ж такі вадасцёкі лічацца ўласнасцю дзяржавы і нацыянальным багаццем. Ці не так? Прыклад таму — Чаромхаўская гміна.

Рэчка Нурэц бярэ пачатак з-пад Стравішчаў. Да часу правядзення меліярацыйных работ на тэрыторыі гміны рэчка была багатая рыбамі і ракамі, а рэчышча ў першых пачатках вадасцёку сягала да аднаго метра шырыні ды месцамі такой жа глыбіні. Вясною ў час разводдзя залівала навакольныя сенажаці кузаўскага і ставіскага ўрочышча Ажарова, адкуль рэчка выцякае. Перад Кузавай, насупраць вадакачкі, знаходзілася сажалка і плаціна для запруджвання вады. З гэтага вадаёма помпавая станцыя пастаўляла ваду для чыгуначнай станцыі. У палове пяцідзесятых гадоў праводзілася тут меліярацыя. Рэчышча было добраўпарадкаванае, берагі абкладзены фашынай. Сяляне мяжкоўчых сенажацей абкошвалі берагі рэчышча. З уваходам рынычнай эканомікі водныя суполкі апынуліся ў арганізацыйных структурах сельскагаспадарчых аддзяленняў павятовых староставаў. Рэчка Нурэц на вышыні вёскі Кузава знаходзіцца ў аплаканым відзе. Не відаць рэчышча сярод буйнай, някошанай травы. А далей жа ў суседніх Рэпчычах знаходзіцца вадасховішча. Кляшчэлеўская гміна за стан надрэчных сенажацей паклапацілася і пакрысталася еўрасаюзнымі сродкамі. Вось таму доказ як размяркоўвуюцца еўрасаюзныя грошы на канкрэтныя мэты.

**Уладзімір СІДАРУК**



## Закрасавалі летнія кветкі

Цяпер шмат кветак цвіце ў Беластоку, між іншым, на свежа адрамантаванай алеі Пілсудскага, на скрыжаванні з кругавой развязкай алеі Пілсудскага з вуліцамі Палацовай і Браніцкага (у форме вялікага сонца) і на скрыжаванні з кругавой развязкай у Дайлідах, на вуліцы Сасноўскага ды на прыемным аднаўленым скверыку пры вуліцах Мальмеда і Бялуўны. На Рынку Касцюшкі белыя і ружовыя петуніі красуюцца ў вазонах-кветніцах на ліхтарах вулічнага асвятлення. Многа летніх кветак зацвіло каля палаца Браніцкіх і на тамашніх паркавых алейках у стылі барока, у парку Плянты ды ўвогуле ва ўсіх гарадскіх парках.

У Гайнаўцы летнія кветкі цвітуць у цэнтры горада, між іншым, на галоўнай артэрыі — вуліцы 3 Мая, на двух скрыжаваннях вуліц з кругавой развязкай (адно з іх Яна Паўла II, дзе крыжуюцца вуліцы 3 Мая, Варшаўская і кс. Верабея). На вуліцы 3 Мая стаяць вялікія вазоны-кветніцы з кветкамі на шырокіх тратуарах, а таксама вісяць на слупах вулічнага асвятлення ў меншых вазонах-кветніцах (у іх выбралі — гэта відаць здалёк — самыя прыгожыя). Аксаміткі і бягоніі цешаць вока на гарадскіх клумбах у скверыку перад гарадской управай ды ў другім скверыку ля скрыжавання вуліц Стэфана Баторыя і 3 Мая. Як я памятаю са сваіх юнацкіх гадоў, у сямідзясятыя і васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў Гайнаўцы кветак было больш. Тады на клумбах садзілі многа чырвоных ружаў.

У Нараўцы паставілі на лета новыя кветніцы з чырвонымі бягоніямі (яны — як я даведаўся ад кіраўнічкі мясцовай прыгожай святліцы Нэлі Харкевіч — доўга цвітуць) пры тамашнім Гмінным асяродку культуры, на прыпынку аўтобусаў ПКС і прыватных бусікаў на правым беразе рэчкі, пры мастацкай галерэі імя Тамары Саланевіч і пры новым Кааператыўным банку. Па-мойму іх дастаткова.

У Заблудаве красуюцца кветкі толькі ў адным месцы — на дагледжаным скверыку з лавачкамі, пры якім прытрымліваюцца ўсе міжгародні аўтобусы ПКС ды ўсе аўтобусы прыватнай камунікацыі. Гэты скверык перад гарадской управай і, мабыць, таму пасадзілі лапінку кветачак на клумбе.

У Нарве самыя розныя кветкі садзяць жыхары ў сваіх дагледжаных прыдамашніх агародчыках. Яны зараз у іх прыгожа зацвілі. Найбольш іх пры галоўнай вуліцы Міцкевіча (калісьці — як распавяла мне Марыя Кур'яновіч — Рыбацкай). А нарваўскія гмінныя ўлады сёлета забылі пра ўпрыгожванне кветкамі хаця б цэнтра мястэчка.

## Фотаконкурс

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ўжо дзясяты раз арганізоўвае фатаграфічны конкурс „Падляшша ў аб'ектыве — 2014". Дагэтуль удзельнічалі ў ім жыхары Гайнаўшчыны ды іншых рэгіёнаў Падляшша і Польшчы. Усе яны фатаграфавалі прыгажосць Падляшша, рабілі здымкі ў цэрквах і паказвалі іх асаблівы таямнічы клімат, паказвалі наша праваслаўе ды нашу прыроду — непаўторны выгляд Белавежскай пушчы і іншых месцаў на Падляшшы. Рабілі партрэты людзей, фатаграфавалі краявіды з зубрамі пры заходзе сонца, са стогам сена пасярод надрэчных лугоў або са старымі дзівосна пакручанымі дрэвамі, між іншым, вербамі.

Свае працы трэба выслаць на адрас арганізатара — у Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая, 42 — да 30 верасня 2014 года.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



## Сустрачанская хроніка (5)

Вечарам нас чакаў чарговы сюрпрыз. Рэдактар „Зоркі” Ганна Кандрацюк-Свярубская падрыхтавала прэзентацыю пра гісторыю 28 выпускаў Сустрэч „Зоркі”. На здымках мы пабачылі шмат знаёмых, сярод іх былі сваякі, бацькі некаторых удзельнікаў, настаўнікі і нават многія з нас. Файным дапаўненнем было выступленне студэнткі журналістыкі Наталлі. Яна была на Сустрэчах ад пачатку. Ёй запамяталіся людзі і ўсякія прыгоды, якія ў таямніцы перад апекунамі ладзілі з сябрамі ў вольны час.

Раніцай у суботу мы паехалі на экскурсію над Семяноўскае вадасховішча. Нашым гідам быў гаспадар пансіяната Барыс Казлоўскі. Ён памятаў людзей з залітых вёсак, некаторыя з іх выступілі ў фільме Тамары Саланевіч „Ці чуеш як плача зямля?”. Хоць было вельмі холадна на двары, нас саграваў дух сяброўства. Некаторыя ўголас думалі, што сталася з прадметамі і будынкамі, якія апынуліся пад вадой. Мы спыталі ў спадара Барыса, ці ёсць легенды на тэму вадасховішча. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Некалькі гадоў таму пайшла чутка пра цмока, які жыве ў глыбі возера. Але той цмок відавочна здох, бо сёння ніхто пра яго не памятае і не баіцца.

Над берагам вадасховішча адбываліся „рэгаты” — мерапрыемства з галіны воднага спорту. Прыехала шмат народу з цэлай краіны, многія з іх паставілі палаткі. Мы глядзелі на ваду і не маглі паверыць, што трыццаць гадоў таму, там дзе возера — стаяла сем вёсак, што на лавачках выседжвалі людзі і гаварылі пра свае справы, а па бруку хадзілі індыкі, гусі, каровы...

(*працяг будзе*)

**Анна БЯЛЯЎСКАЯ,**
*Янова, школа ў Нараўцы*

## Магу

Я ўсё магу:
Магу спяваць,
Магу танцаваць,
Магу сніць,
Магу любіць,
Магу спаць,
Магу свае мары здзяйсняць
І магу заканчэнне
напісаць...
Але нашто?

**Юстына МАРЧУК —**
*„Сустрачанская скрыня”*

## Шчасце

Цішыня.
Вецер вее ў твар.
Лаўлю ў далоні зелень.
Шышкі ляжаць
пад маімі нагамі.
Усюды цішыня.
Шчасце — што гэта такое?
Зялёны колер?
Людзі, сябры?
Любоў, каханне?
А можа прырода,
якая нас атуляе...

## Знікаюць нашыя вёскі

Ці дакументальны фільм можа зацікавіць моладзь?

Міхась Грэсь даказаў гэта на прыкладзе свайго кінапраекта „Лавачка”. Ён зняў людзей з адміраючых вёсак на Падляшшы. Аўтар наведаў чатыры гміны, у тым ліку вёску Ахрымы Нараўчанскай гміны. Ён спытаў у людзей як калісь выглядала іх жыццё і што памянялася сёння на вёсцы. Для мяне гэты дакумент дапамог зразумець — хто я.

Мы пабачылі яшчэ, што знікаюць нашыя вёскі на Падляшшы. За некалькі гадоў, калі памруць найстарэйшыя людзі, вёска будзе іншай, чужой. Спадар Міхась зрабіў вялікую справу. Ён запісаў расказы людзей пра месцы, якія апынуліся пад пагрозай знікнення. Я думаю што наступныя пакаленні будуць мелі магчымасць пабачыць людзей, які размаўлялі на нашай мове.

**Эва АВЯРЧУК**
**—** *„Пушчанскі голас”*

## Вялікі Рог

Даўно-даўно ў пушчы жыло шмат звяроў. Кожны меў свой дом і сям’ю. У лесе жыў алень Вялікі Рог. Ён быў моцны і адважны.

Аднойчы, у сонечны дзень, Вялікі Рог выбег прагуляцца па пушчы. Раптам ён убачыў людзей. Яны неслі на сваіх плячах павязаную звярыну: вавёрак, коз, зайцоў, лісіцу. Алень рашыў дзейнічаць. Ён падбег да людзей і пачаў іх калоць сваімі рагамі. Людзі спалохаліся. Яны кінулі на зямлю звярыну і ў вялікім жаху ўцяклі з лесу.

З гэтай пары Вялікі Рог стаў каралём пушчы. Людзі пабаяліся яго, сталі шанаваць прыроду і больш не думалі, каб для гульні лавіць дзікіх звяроў.

**Патрыцыя ЧЭМЭРЫС —** *„Пушчанскі голас”*





Інтэрв'ю з **Юркам Ляшчынскім**, рэпартажыстам і праграмным дырэктарам Радыё Рацыя

# Падарожжы, рэпартаж і пазітыўны гумар



**„Пушчанскі голас": —** ***Ці больш падабаецца Вам праца журналіста ці дырэктара?***

**Юрка Ляшчынскі**: — Будучы дырэктарам, я не перастаў быць журналістам. Адно другому не перашкаджае. Я далей займаюся журналістыкай, рэдагую пэўныя перадачы. Вяду таксама сваю радыёперадачу. Ад гэтага не ўцячэш...

**ПГ: —** ***Чаму Вы выбралі рэпартаж як свой галоўны жанр?***

**ЮЛ:** — Гэта атрымалася выпадкова. Калісь я працаваў карэспандэнтам аднаго радыё. У 1990 годзе здарылася няшчасце, згарэла царква на Грабарцы. Я паехаў запісаць матэрыял. Потым узнікла думка, каб зрабіць з гэтага рэпартаж. Ён атрымаў узнагароду ў конкурсе „Польшча і свет". Старэйшыя сябры пачалі мяне заахвочваць, гаварылі, што я створаны для рэпартажу. Другі мой рэпартаж быў пра кабету, якая сама жыла ў зямлянцы, у пушчы.

**ПГ: —** ***Вы сказалі што праца дырэктара не выключае быць журналістам. Скажыце, а ці Вы хацелі б зноў працаваць рэпартажыстам?***

**ЮЛ:** — І так, і не. Дырэктарам чалавек бывае, а журналістам будзе ўсё жыццё. Такі лёс. Усе рэпартажы, нават тыя, якія пісаліся 20 гадоў таму, маюць дакументальную вартасць. Калі там ёсць яшчэ рэфлексія, гэта заўсёды жывы, добры рэпартаж.



**ПГ: —** ***Што гэта такое — добры рэпартаж?***

**ЮЛ:** — Мусіць быць цікавая тэма, добры пачатак, развіццё і добрае заканчэнне. Вельмі важны пачатак. Калі ў пяці першых сказах мы патрапім зацікавіць слухача ці чытача, ён застанецца пры радыёпрыёмніку, будзе чытаць далей. Важна, каб рэпартаж схіляў да думання. Каб пасля ўсяго мы хадзілі і думалі пра тое, што пачулі.

**ПГ: —** ***Вы не толькі радыёжурналіст, час ад часу пішаце рэпартажы ў „Ніву"? Пра што найбольш любіце пісаць?***

**ЮЛ:** — Пра падарожжы. Я крыху падарожнічаў па свеце. Апошнім часам я пабываў у Іерусаліме. Там, можна сказаць, пачатак і канец гісторыі чалавецтва. Пабачыць на свае вочы месцы, ад якіх называем пэўныя паняцці, такія як „геена" ці „галгофа"; гэта як дакрануцца да пэўнага гістарычнага коду, працэсу.

**ПГ: —** ***Ці ў Вас ёсць любімыя месцы на Падляшшы, дзе любіце паехаць на рэпартаж?***

**ЮЛ:** — Мяне цікавіць усё, што адбываецца на тэрыторыі, дзе жывуць беларусы. Гэта на Падляшшы і ў Рэспубліцы Беларусь. Здаецца, няма ў нас такой гміны, дзе я не рабіў бы матэрыялу.

**ПГ: —** ***Ці Вы заўсёды хацелі быць журналістам?***

**ЮЛ:** — Не, не заўсёды. У вашым узросце я хацеў быць як героі маіх кніжак. Я многа чытаў кніжак, і далей чытаю...

**ПГ: —** ***Хто для Вас аўтарытэт у журналістыцы?***

**ЮЛ:** — Мае старэйшыя сябры мяне матывавалі. Гэта Стась Пазнанскі, Ян Смык. Хоць найбольш мяне натхнялі слухачы. Людзі падказвалі тэмы.

**ПГ: —** ***Ці Вы былі знаёмыя з Тамарай Саланевіч?***

**ЮЛ:** — З ёю працаваў мой дваюрадны брат Мікола Нестаровіч. Ён быў кінаапаратарам. Ён часта мне расказваў пра фільмы, якія яны разам здымалі. Тамара Саланевіч была свядомай беларускай. Яна хацела захаваць памяць пра нашых людзей і культуру.

**Апрацавалі Максім ФІЁНІК і Уля МАРЧУК**

## Вершы Віктара Шведа

### Мару аб такіх бацьках

Пакараў бацька Франка,
Маці яшчэ далажыла.
Раіць: — Бяры прыклад з Янка,
Якога бацькі не білі.

І што ты скажаш на гэта,
Пасля атрыманай кары?
— Скажу я вам без сакрэту:
Аб такіх бацьках я мару.

### Якой буду скацінай?

— Чаго плачаш, дзіцятка?
— Аслом заве матка татку,
А татка мой за тое,
Матку назваў казою.

А я стаю і плачу,
Не вырашу задачы:
Я будучы іх сынам,
Якой буду скацінай?

### Сонца і Месяц

Сонца Месяца пытае
У часе адпаведным:
— Табе заўжды я спачуваю,
Чаму такі ты бледны?

Месяц адказвае Сонцу:
— Каб ты глядзела начамі,
Што дзеецца тут бясконца —
Пабляднела б таксама.

### Асліны кут

— Мару аб тым, сказаў Міхась,
Каб круглым быў наш школьны клас.
— Што ты прыдумаў, абібок,
Эксплуатуеш наш куток.

— Марыць магу я заўсягды,
Каб не было такой бяды.
Каб клас не меў ліхіх куткоў,
У кут ніколі б не пайшоў.

## Польска-беларуская крыжаванка № 30

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 26:
Лозунг: Канікулы!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |
| | Wakacje | | Niebo | | Kok | Om | Mąż |
| | | | | | Ar | | |
| | Kaktus / Uch! | | Puchar / Piwo | Arab | | | |
| | | Paryż / Wrzątek | | | | | |
| | Wir / Karp | | | | | | Mars |
| Kawa | | | | | | | |
| Jarzębina | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| Jar / Odkurzacz | | | | | | | |



■ Дарафей Фіёнік (спераду) працаваў з касой у руках, а пасля падмену яму рабілі іншыя мужчыны

ёнік. — Калі маладыя асобы вучацца жаць сярпом, здараюцца выпадкі скалечыць палец, але гэтыя раны наогул невялікія.

Калі падчас студзіводскіх зажынак здаралася, што нейкая з новапрывучаных жней парэзала сярпом палец, тлумачылі ёй, што ўсім так здараецца, покі не налоўчацца працаваць з гэтай прыладай. Мне адзін раз у жыцці прыйшлося працаваць з сярпом у руках на бацькаўскім полі, калі разам з сямейнікамі выжалі мы велікаваты ўчастак жыта, што ляжала прыбітае да зямлі. Тады я таксама парэзаў палец, але хутка ён прыгоіўся, паколькі рана не была глыбокай. Пазней мой бацька, пачынаючы са злому сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў, заўсёды ўбіраў збожжа камбайнам, нават прыбітае да зямлі, паколькі і жніўная тэхніка стала працаваць на вышэйшым узроўні.

У студзіводскіх зажынках прынялі ўдзел таксама члены аб'яднання «Крыніца» з Ліпін, якія наладзілі супрацоўніцтва са Студзіводскім музеем.

— Мы тут упершыню і нам жніво вельмі падабаецца. Нашы дзядулі так жалі, бацькі ўмелі карыстацца сярпамі, а мы маем нагоду падвучыцца працаваць сярпом. Мы ад Студзіводскага аб'яднання таксама вучымся, як вяртацца да сваіх традыцый і паказваць колішняе жыццё, — заявіла Іаанна Кірылюк, віцэ-старшыня аб'яднання «Крыніца», да якога належаць жыхары Ліпін, Гайнаўкі і навакольных вёсак.

Галоўнымі жнейкамі на полі Дарафея былі жанчыны з калектыву «Хаціслаўяне» і яны сваім спевам захапілі сабраных.

— На Палессі мы многа выступаем, але ў асноўным робім гэта на сцэне. Тут мы займаемся на полі і прэзентуем фальклор у натуральных умовах, так як гэта рабілі нашы продкі. Проста — цудоўнае мерапрыемства, — сказала ўдзельніца калектыву «Хаціслаўяне». Спевакі з Хаціслава прывезлі з сабою *грычанікі* — грачаныя хлябы, якімі пачаставалі сабраных. Магдалена Петрук з Падляшша заявіла, што ў мінулых гадах была на зажынках і кожны год застаюцца ад іх новыя цікавыя ўражанні. Вучыцца яна жаць сярпом, спявае па-беларуску і разам з іншымі жнейкамі наведвае штораз новыя вёскі, дзе падчас жніўных сустрэч прэзентуецца фальклор земляробча-каляндарнага цыкла.

# «Олень по бору ходіт» — дзясяты раз

**Здаецца нядаўна Дарафей Фіёнік і яго супрацоўнікі з Музея малой айчыны ў Студзіводах пачалі арганізаваць абрадавыя Падляшска-Палескія жніўныя сустрэчы «Олень по бору ходіт». Апрача працы з сярпамі і касой на полі ды спявання жніўных песень, арганізатары гэтага фальклорнага мерапрыемства рашыліся паказваць жніўныя традыцыі, танцы і паляванне на аленя. Сталі трубіць на паляўнічым рагу і заклікаць на паляванне, у адпаведнасці са словамі жніўнай песні «Олень по бору ходіт».**

У мінулым палявалі нашыя продкі, каб раздабыць мяса для тых, што цяжка працавалі падчас жніва. На полі Дарафея Фіёніка і на іншых участках, дзе адзначаліся жніўныя сустрэчы, выносілі на поле пакрывала, на якім была выткана выява аленя, што было сімвалам упаляванай лясной звярыны. *Зажынкі* ў мінулым часта адбываліся напярэдадні святкавання ў гонар апосталаў Пятра і Паўла і згодна гэтай традыцыі ў гэтым годзе зажыналася жыта на полі ў Студзіводах. Адбылося гэта 11 ліпеня, перад усяночнай багаслужбай. Іншыя жніўныя сустрэчы праходзілі 12 і 13 ліпеня ў Сабятыне і Рагачах Мілейчыцкай гміны, а 27 ліпеня прэзентацыя фільма «Сейбіт» і жніўны канцэрт маюць адбыцца ў Паўлавічах Мельніцкай гміны, ужо ў рамках *дажынак*. Падляшска-Палескія жніўныя сустрэчы «Олень по бору ходіт» былі сёлета юбілейнымі — адбыліся дзясяты раз, што стала добрай нагодай, каб прыпомніць іх мэту.

— Падчас жніўных сустрэч паказваем сабраным цяжкую працу продкаў пры ўборцы збожжа і падрыхтоўцы з яго хлеба. Моладзь павінна ведаць, што трэба шанаваць хлеб, навучыцца жаць збожжа сярпом і рабіць пярэвяслы. Аднак галоўны сэнс жніўных сустрэч заключаецца ў тым, каб паказаць маладым што тое, што дае нам Бог, з Божай дапамогай збіраем з поля. Гэта ўсё адбываецца па Божым благаславенні. Карагоды, якія водзім па вёсках, спяванне абрадавых песень і танцы толькі суправаджаюць жніво, так як было ў мінулым, — сказаў Дарафей Фіёнік, ініцыятар і галоўны арганізатар мерапрыемства.

Сёлетнія Падляшска-Палескія жніўныя сустрэчы «Олень по бору ходіт» праходзілі з удзелам беларускіх калектываў з Падляшша — «Жэмэрвы» са Студзіводаў, «Маланкі» з Бельска-Падляшскага, «Крыніцы» з Радзілаўкі і беларускіх калектываў з Палесся — «Хаціслаўян» з Хаціслава і «Таўкачыкаў» з Кобрына (маюць выступіць 27 ліпеня). Сустрэчы пачаліся на полі, на якім Юры Каліна здымаў фільм «Сейбіт» пра сям'ю Дарафея Фіёніка і яго дзейнасць на ніве захоўвання і прапагандавання фальклору і замацоўвання мясцовай беларускай культуры. Аднак поле знаходзіцца адносна далёка ад дома Дарафея і таму сабраныя дабіраліся на яго на машынах, хаця да гэтага ўдзельнікі жніўных сустрэч прайшліся яшчэ па Студзіводах, спяваючы жніўныя песні. Побач палетка з жытам растуць ужо лес і кусты. Зямля ў Студзіводах наогул горшай якасці, але ўчасткі поля, распаложаныя бліжэй сядзіб, дорага прадаюцца пад будову жылля на акраіне Бельска-Падляшскага.

— Добра, што прыехалі людзі, якія хочуць паглядзець традыцыйнае жніво. Частка з іх хоча навучыцца жаць сярпом. Я таксама цяпер навучылася жаць, бо дагэтуль гэтага не рабіла, — заявіла Альжбета Фіёнік, жонка Дарафея і кіраўнік тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры, які штогод паказвае ў Бельску-Падляшскім абрадавыя сцэнкі падчас «Спасаўскіх запустаў». Сёлета на зажынкі прыехалі бяльшчане і жыхары навакольля, якія маглі патрымаць у руках серп, касу і нават паспрабаваць імі зажынаць і касіць жыта. Нягледзячы на тое, што жыта на полі Дарафея вырошчваецца экалагічным спосабам, без прымянення мінеральных угнаенняў, вырасла яно даволі высокім. Перад працай на полі сабраныя паманіліся, так як гэта рабілі нашы продкі перад кожнай работай. Першыя жмені зжатага жыта паклалі ў выглядзе крыжа і з яго пасля выканалі сноп, які ў сям'і Фіёнікаў будзе стаяць у кутку памяшкання падчас Куцці перад Раством Хрыстовым.

— На зажынкі прыбыла малодшая група калектыву «Жэмэрва», бо старэйшая ўжо раз'ехалася па Польшчы, каб паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы і нават падчас канікулаў складана ім сабрацца, — сказала Анна Фіёнік, кіраўнік «Жэмэрвы». — Сёння прыйшлося мне віταць жняцоў перад мяшчанскай хатай нашага музея. На полі трэба таксама паспяваць з моладдзю, як рабілі ў мінулым маладыя падчас жніўных перапынкаў.

Спявалі на полі таксама ўдзельнікі калектыву «Хацiслаўяне», якія ўжо чацвёрты раз прыбылі ў Студзіводы, але ўпершыню на жніво. Іх кіраўнік Галіна Хомік была пад вялікім уражаннем дзейнасці Студзіводскага музея і яго вяртаннем да традыцый. Частка гэтых традыцый захоўваецца яшчэ на Палессі, але не паказваюць іх падчас мерапрыемстваў.

— Нашыя матулі яшчэ жалі сярпамі, а бацькі касілі, але мы ўжо не жалі. Хіба, што толькі паспрабавалі гэта рабіць. Зараз у нас ёсць невялікія ўчасткі зямлі, але на іх мы практычна збожжа не сеем. Расце там агароднiна, бульба, ці трава. Некаторыя гадуюць яшчэ ў нас кароў, а збожжа сеюць тыя, у каго больш зямлі і яны збіраюць яго камбайнамі, — патлумачыў Вячаслаў Краўчук з Хацiслава, які спявае і іграе на баяне ў калектыве «Хацiслаўяне». — Таму цікава нам прыняць удзел у сапраўдным жніўным абрадзе *зажынак*, падчас якога можна паспяваць.



■ На поле жнейкі прынеслі харчы і ваду, каб сабраныя маглі падмацавацца

Нашы продкі асабліва рыхтаваліся да працаёмкага жніва. Маліліся ў цэрквах за добры ўраджай і з малітвы пачыналі працу на полі, каб не здараліся нешчаслівыя выпадкі, бо ж працавалі з касой і сярпом у руках. Удзельнікі жніўных сустрэч мелі маліцца ў царкве падчас святкавання ў гонар апосталаў Пятра і Паўла і на наступны дзень, у нядзелю, у царкве ў Рагачах.

— Мой дзядуля Грыша Сідорскі, бацька маёй матулі, быў вельмі прывязаным да традыцыйнага жніва і ажно да паловы васьмідзясятых гадоў касіў збожжа касой. Я касіць ад яго навучыўся. Вельмі важным з'яўляецца *адкляпанне* касы падчас жніва, што мужчыны рабілі нават два разы на дзень, каб крыху аблегчыць сабе працу. Сёння я ўзяў з сабой малаток, бо можа прыйдзецца памайстраваць каля касы, каб яе мацней набіць на *тронак*. Вастрыць касу трэба вельмі часта і таму *асёлку* касцы носяць пастаянна з сабой, — расказваў падчас перапынку ў працы Дарафей Фіёнік.

Аднак часы мяняюцца і нават сям'я Фіёнікаў карыстаецца цяпер тэхнікай падчас апрацоўкі зямлі і ўборкі ўраджаю. Частку поля Дарафей выдзяляе на традыцыйнае жніво з выкарыстаннем сярпоў і кос, а апошняе збожжа ўбірае камбайнам.

— Аднак у мінулым годзе з дапамогай *турыстаў* мы ўручную выкасілі і выжалі вялікі ўчастак жыта і пасля Дарафей маладзіў яго цэпам, — удакладніла Альжбета Фіёнік.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Заходні край Падляшша

Здарылася мне прачытаць у старых дакументах драгічынскага суда пра нейкі закалот вакол царквы ў Косаве, які здарыўся ў 1638 годзе. Паколькі яго тэкст напісаны лацінска-польскім мішмашам, я не надта ўпэўнены, ці ўдалося мне ўласціва зразумець апісаны там ход падзей, але ўсё ж такі: нейкі падвыпіўшы ў тамашняй карчме дваццаціасабовы народ падаўся ў царкву, накінуўся на прысутных там вучняў, якіх загнаў на верх царквы і трымаў іх там каля чатырох гадзін...



Касцёл у Косаве-Ляцкім

Мяркую, што пад драгічынскі суд таго часу падлягаў царкоўны Косаў-Рускі, ад якога зараз асталася па сутнасці толькі тапаграфічная назва. Астаўся затое Косаў-Ляцкі, зараз горад, падацца ў які карцілі мяне дарожныя паказальнікі ў Цэранаве і Стэрдыні, што па ломжынска-сядлецкай шашы. І вось згадка пра Косаў у артыкуле Ганны Кандрацюк, датычная карціны Эль Грэка, падштурхнула мяне падацца туды, на самы захад гістарычнага Падляшша.

Косаў-Ляцкі знаходзіцца ў пятнаццаці кіламетрах ад чыгуначнай станцыі Малкіня; гэта сама раз адрэзак для памяркоўнага шпацыру. Шпацыру па шашы з Малкіні ў напрамку Сакалова-Падляшскага і Седльцаў. Ад Малкіні ідзе новая шаша цераз новы мост на Бугу, з якога ў воддалі відаць і чыгуначны мост, па якім курсіруюць беластоцка-варшаўскія цягнікі. Раней і паблізу быў іншы чыгуначны мост, па якім ездзілі цягнікі з Малкіні ў напрамку Седльцаў, але яго ўжо няма, так як няма ўжо і тае чыгуначнае лініі, яна ўжо зусім знесена, а на некаторых адрэзках заарана землярobамі. Згаданая новая шаша, аднак, не працяжная. Неўзабаве, каля кіламетра за мостам, яна „старэе" да жалюгоднага стандарту — поўна на ёй усялякіх ухабін. Такой „шашы" няма нават у нашай Польшчы „Б"; спачуваю вадзіцелям, якія вымушаны па ёй ездзіць. Дарэчы — там Буг з давён-даўна быў або дзяржаўнай, або „толькі" адміністрацыйнай мяжой, акраінай.

Але пяшком можна хадзіць, толькі абачліва, уступаючы шмат месца машынам, якія размінаючыся вымушаны шмат з'язджаць на абочыны. Маставая там з бетонных пліт, а выемкі каля іх так глыбокія, што легкавушкі могуць па тых плітах „катацца" восямі. Недзе ў палове дарогі невялікімі паказальнікамі ды даволі вялікімі цэментнымі блокамі пазначаны недалёкі канцлагер Трэблінка; тыя блокі, аднак, абраслі расліннасцю і не надта іх відаць з дарогі.

На спадарожнікавых мапах пазначаны тапаграфічны аб'ект Косаў-Рускі, аднак дарожных паказальнікаў у тую мясцовасць я не ўбачыў, хаця з „маёй" дарогі было ў тое месца найбліжэй. Была затое назва тае мясцовасці на рэкламным шчыце; значыць след усходнеславянскага пасялення там захаваўся, хаця ў іншых мясцовасцях Забужжа „рускія" тапонімы былі пасля Першай сусветнай вайны перайменаваны, напрыклад недалёкая Яблонна-Руская стала Яблоннай-Старой, а Руская Воля каля Міжрэчча-Падляшскага стала Польскаволяй...

Аднак і ў Косаве не абышлося без выпікання „рускасці" на абочыну. „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага" з 1883 года: „Kossów, osada, dawniej miasteczko nad rz. Chudziną, mylnie Hudynią, pow. sokołowski, leży przy trakcie z Ciechanowca do Warszawy. Kosów Lacki w 1827 r. miał 23 domy, 171 mieszkańców; obecnie 21 dm., 340 mk.; Kosów Ruski w 1827 miał 39 dm., 289 mk., obecnie 31 dm., 371 mk.; tu urząd gminny". Рускі Косаў быў у заходняй, левабярэжнай частцы мясцовасці, а Ляцкі быў на правым беразе ракі, якая зараз ужо не Chudzina, толькі Kosówka; гарадская ўправа, так як і калісь, на левабярэжжы...

Даведнік „Sokołów Podlaski" з 2006 года: „W części Kosowa zwanej Ruską znajdowała się cerkiew, pierwotnie prawosławna, wspominana już w 1530 r. pod wezwaniem Najświętszej Marii Panny. W połowie XVIII w. jej kolatorem był Wawrzyniec Kossowski. Była to cerkiew parafialna, z parafią znaczną, ruska, należąca do unii i z funduszami na utrzymanie pasterzów miejscowych, oprócz włóki gruntu we 3 zmiany, ogrodów i innych realności, dziesięcina dochodziła od parafian z miasta Kossowo i innych osad ruskiego obrzędu. Cerkiew przestała istnieć w 4. ćw. XVIII w. w wyniku przejścia jej parafian na katolicyzm. Według grodziskiego parocha duży w tym udział miał mieć proboszcz kosowskiego kościoła — ks. Paweł Dąbrowski, który cerkiew przywłaszczył sobie za filię, a parafian za owieczki, na mazowiecki czyli łaciński obrządek. W każdym razie wizyta roku 1781 wspomina, iż w tym czasie ani jednego parafianina już nie było; albowiem wszyscy przeszli na obrządek łaciński i przyłączeni zostali do kościoła łacińskiego w Kosowie".




Рускі Косаў яшчэ захаваўся



Капліца Яна Непамука ў Косаве-Ляцкім

Можна было б падумаць, што з канцом XVIII стагоддзя Косаў прымае цалкам „ляцкі" характар. Аднак было інакш... Партал Штэтл: „Żydzi zamieszkiwali w Kosowie Lackim przynajmniej od połowy XVIII wieku. Z czasem stali się nie tylko znaczącą grupą w miejscowości, ale absolutną większością. Niezależna gmina żydowska w miejscowości działała w 1827 roku. Kosów Lacki zamieszkiwało wtedy 315 Żydów. W miejscowości był cmentarz i synagoga. W drugiej połowie XIX w. rozpoczyna się do Kosowa Lackiego napływ Żydów należących do bliższych lub dalszych rodzin arendarzy dworskich. Pod ich wpływem rozwija się handel i rzemiosło, szczególnie szewstwo, krawiectwo i kowalstwo".

Яўрэйская энцыклапедыя з пачатку XX стагоддзя: „Косовъ — пос. Соколовского уезда, Седлецкой губ. Въ 1856 году христ. — 26, евр. — 745; въ 1897 г. жит. 1295, изъ коихъ 1258 евр.". Сто гадоў таму яўрэі складалі 98% жыхароў Косава. Штэтл: „Podczas wojny w miejscowości zostało utworzone getto, do którego przewieziono także Żydów z Kalisza, Mławy, Wyszkowa. Jego likwidacja miała miejsce jesienią 1942 roku. Mieszkańców wywieziono do obozu zagłady w Treblince". Сёння па былых жыхарах мястэчка захавалася сінагога.

Над мястэчкам зараз дамінуе выдатны касцёл, пабудаваны ў 1907-1924 гадах у гатычным стылі паводле праекта Юзафа Дзяконскага. Гэты архітэктар запраектаваў таксама Фарны касцёл у Беластоку, а эталонам ягонага сакральнага будаўніцтва з'яўляецца касцёл св. Фларыяна, што на варшаўскай Празе, недалёка ад праваслаўнага сабора Марыі Магдаліны.

Готыка стала ў той час своеасаблівай маніфестацыяй польскасці, прыналежнасці да заходняй культуры, у супрацьстаўленне тагачаснаму неакласічнаму царкоўнаму будаўніцтву. Да таго ж готыка падкрэслівала перакананне, што гатычныя вертыкальныя формы кіруюць думкі і пачуцці ў Неба... Пасля Студзеньскага паўстання польская інтэлігенцыя стала шукаць архітэктурнага стылю, які б найлепш адпавядаў нацыянальнаму польскаму духу; выказнікам гэтага нацыянальнага стылю было прынята менавіта готыка.

Карціна „Экстаз св. Францішка" Эль Грэка была знойдзена ў Косаве-Ляцкім пяцьдзясят гадоў таму; гэта свайго роду невялікі юбілей. Іншы круглаваты юбілей: чатырыста дзевяноста гадоў таму тамашні павятовы цэнтр — Сакалаў-Падляшскі атрымаў ад вялікага князя літоўскага Вітаўта гарадское права. „Геаграфічны слоўнік" з 1890 года: „Sokołów, miasto pow. gub. siedleckiej, leży śród płaskowzgórza w pobliżu źródeł rzeki Cetyni. Miasto posiada kościół par. murowany, drewniany kościołek św. Rocha, cerkiew, synagogę i dwa żydowskie domy modlitwy, 7172 mieszkańców stałych (941 prawosł., 1249 katol., 2 ewang., 4980 żydów)".

Гарадскі партал: „Początki osadnictwa na tych terenach sięgają VI w.n.e. Sokołów należy do tej części Podlasia, która ze względu na swe położenie była typową rubieżą osadniczo-kulturową. Dla określenia wpływów kulturowych i etnicznych oraz struktury osadnictwa prowadzono badania archeologiczne. Wyniki badań potwierdzają, że w miejscu dawnego gródka, początkowo ruskiego, później polskiego w dolinie rzeki Cetynii poprzez stopniowe zasiedlanie powstała osada — Sokołów".

У Саколаве, так як і ў Косаве, у даўнідаўні час суіснавалі край сябе дзве канфесійныя грамадскасці. І ў Сакалове, так як і ў Косаве, пражывалі вернікі ўсходняга абраду, аднак тут нешматлікія. Ва ўсходняй частцы горада, побач цяперашняй вуліцы Рэпкаўскай, па якой дарога ў Драгічын, стаяла царква. Захаваліся яе прыхадскія дакументы XVII-XIX стагоддзяў, але не ўдаецца знайсці дакументаў пра пачаткі і згасанне тамашняга прыхода. Вядома адно, што апошняя саколаўская Пакроўская царква была перанесена з цэрквіска на могілкі, дзе шэсцьдзесят гадоў таму, у 1954 годзе, была зусім знесена...

„Слоўнік", пра Саколаўскі павет: „Podług wyznań było w 1878 r. 46197 katol., 5860 prawosł., 6545 żydów, 805 protest. (...) Dekanat (błagoczynie) składa się z parafii: Czołomyje, Gródek, Grodzisk, Hołubla, Rogów, Seroczyn, Sokołów, Szkopy". Пра большасць апошніх было ў „Ніве". Названыя тут праваслаўныя, гэта былыя ўніяты, перавдзеныя ў праваслаўе ў 1875 годзе; пасля спынення ў 1915 годзе царскага там панавання przeszli na obrządek łaciński i przyłączeni zostali do kościoła łacińskiego.

У палове XVIII стагоддзя Саколаў становіцца ўласнасцю роду Агінскіх. Міхал Клеафас Агінскі, аўтар славутага паланеза „Развітанне з Радзімай", быў не толькі выдатным кампазітарам — быў ён таксама маштабным гаспадарчым дзеячам; жыў жа ён у той час, калі на Гродзеншчыне дзейнічаў Антон Тызенгаўз. Паклікаў ён у свае саколаўскія маёмасці французскіх тэкстыльнікаў, якія ткалі там дываны, паясы ды іншыя вырабы. Даведнік „Sokołów Podlaski": „Taryfa podymnego powiatu drohickiego z 1789 r. wymieniała majętności Michała Kleofasa Ogińskiego, na które składały się miasto Sokołów, w którym notowano 4 karczmy, 1 młyn, 76 dymów żydowskich, 198 dymów chrześcijańskich. Przeprowadzona w tym samym roku wizytacja cerkwi unickiej stwierdzała, że kolatorem świątyni był Michał Kleofas Ogiński. W cerkwi przybyły ławki i ambona oraz zwiększyła się nieznacznie liczebność parafii. Ogiński dbał o wyznawców judaizmu, jako że ludność ta, zajmująca się handlem, rzemiosłem, dzierżawą, przysparzała korzyści materialnych właścicielowi i przyczyniała się do rozwoju gospodarczego dóbr...". Зараз у Сакалове-Падляшскім з колішняй typowej rubieży osadniczo-kulturowej нічога не асталося.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Яносік



Всей водки не перепьёшь, всех статей не перечтёшь — гэта, бадай, найбольш папулярная руская пагаворка, хаця не ручаюся за маю яе беспамылковасць. Бо ж сапраўды, сённяшняя інфамацыйная навала такая, што немагчыма заўважыць усе яе кропелькі. Таму вялікая падзяка тым усім, хто падае спасылкі на найбольш вартасныя інфармацыйныя крупінкі.

Прызнаюся, што я, жывучы ў нашым тутэйшым раю, растучым не так даўно ў сілу, стаўжыць так дастатней, што моцна ад таго афіцыйнага дастатку разгультаіўся і разбэсціўся, дасцягнуў такой фальклорнай нірваны.

Шчаслівенька, часам у маім чытальніцкім гультайстве ўдаецца ўсё ж такі прачытаць спасылку ў цікавы свет пісьменніцтва. А ў свет пісьменніцтва заглянуць можна толькі цераз свет чытальніцтва, найгультайней менавіта цераз спасылку. І вось такая спасылка з'явілася ў нашай „Ніве", дзе, у спасылцы, спадар Ваўранюк спакушае грэшную цікавасць чытача пазнаёміцца з адным з твораў Васіля Петручука.

Васіля Петручука — веру — прадстаўляць чытачам няма патрэбы. Гэта наш хрэстаматыйны пісьменнік. Гэта душа нашага тутэйшага народа. Яго тэксты — здаецца — напісаны маёй рукой ад маёй душы. Аляксандр Блок быў пісаў калісь: Писательская судьба — трудная, жуткая, коварная судьба. Последнее и единственно верное оправдание для писателя — голос публики, неподкупное мнение читателя. Это как бы легкое дуновение души народной — коллективной души.

Што лёс Васіля Петручука трудны, жудасны і каварны, усім — мяркую — вядома. Уся яго творчая лінія непахісна трымаецца ў агульнасці — ад яйца і да канца — мачашынай спадніцы. А ад мачашынай спадніцы можна непахісна чакаць толькі цяжкасцей, жудасцей і каварнасцей. І вось той голас публікі, голас падтрымкі пісьменніку ў ягоных жыццёвых муках, той подых душы народнай падаў спадар Ваўранюк, а я да яго неадкладна далучаюся.

Блок: Писатель — растение многолетнее. Как у ириса или у лилии росту стеблей и листьев сопутствует периодическое развитие корневых клубней, — так душа писателя расширяется и развивается периодами, а творения его — только внешние результаты подземного роста души. Как ирис и лилия требуют постоянного удобрения почвы, подземного брожения и гниения, так писатель может жить, только питаясь брожением среды.

Не інакш і ў Васіля Петручука, дзе ягоныя літаратурныя сцяблінкі і лісцінкі перыядычна — значыць пастаянна — развіваюцца дзякуючы падземнаму браджэнню і гніенню. Наш класік дасканала ведае, што бродзіць у глыбіні нашых душ. Ён у захапіўшым мяне — рэкамендаваным спасылкай — тэксце малюе магічны краявід роднага нашага краю. Краю, якога — як у казцы — агульную народную правільную душу нявечыць кашчэй-чараўнік, якога наш масціты аўтар называе падсрывачом-гнаялеем.

Здавалася б, што гной, падліваны кашчэем-гнаялеем, павінен спрыяць росту сцяблінак і лісцінак, павінен спрыяць і росту кветак, спрыяць агульнаму эстэтычнаму росту душы, павінен радаваць. Але гэта толькі ілюзорная мроя, бо з таго гною вырастаюць не кветкі, толькі шыпы ў тутэйшых агульных душах, якія балюча колюць нашага шаноўнага спадара Васіля. І колюць не толькі шыпы, але і нашыпаваныя тымі шыпамі нашы тутэйшыя шыпаколы.

Блок: Не удивительно после этого, что почти все скоро теряют почву под ногами. Собственный голос начинает смешиваться с голосами близких соседей, случается, что лица и души становятся похожи одно на другое, как в кабаке. І вось у гэтай нашай карчме, у гэтай нашай катавасіі, тутэйшыя твары і душы мучаць нашага шматпакутнага класіка, мабыць яшчэ больш балюча чым язычнікі, якія мучылі калісь святую Варвару. Таму неадкладна трэба біць трывогу і спяшыць на дапамогу, адгукнуцца на кліч спакутаванай душы.

Мяркую, што далучацца да гэтага трывожнага клічу ўсе людзі добрай волі, у тым і нашы шляхетныя дзяржаўныя вярхі, а Прэзідэнт пакліча фармацыю **pisarzy wyklętych**, у якую на ганаровае месца будзе запісаны наш шматпакутнік. Паколькі ў ліку галоўных сваіх шыпаколаў пакрыўджаны бачыць тэлебачанне, тады мяркую, што і гэтая ўстанова пакаецца і ў якаясці кампенсацыі выдзеліць свой канал **Big Brothel TV Live** кругласутачнай прэзентацыі выключна спіханага дагэтуль на абочыну выказніка глыбіні нашых душ.

Магічны краявід нашага тутэйшага краю бачны не толькі цераз прызму творчасці Васіля Петручука. Тут адбываюцца цуды, не менш уражальныя чым у Святой Зямлі. Там Ісус здзяйсніў шэраг цудаў: хто не хадзіў, той стаў хадзіць, хто не бачыў, той стаў бачыць. І ў нас жа таксама дзеюцца падобныя цуды, а хто ведае, ці нават і не большыя: хто не чытаў допісаў Янкі Целушэцкага пра Янку Целушэцкага, той стаў чытаць допісы Янкі Целуцэцкага пра Янку Целушэцкага. Наш пісьменнік-класік Янка Целушэцкі не разглядаецца трывожна, так як Васіль Петручук, за марным тэлебачаннем, але так як Ісус у старыну на асліцы, так і цяпер Янка Целушэцкі на ровары безгалосна здзяйсняе цуды, пра якія ў старыну і не снілася найбольшым прарокам. Ён піша допісы Янкі Целушэцкага пра Янку Целушэцкага і сам, не ручыся ў грэшную, як гэта лічаць некаторыя тэолагі, чартоўскую выдумку — тэлебачанне, карыстаецца, як гэта пісьменніку і прыстоіць, спрадвечным друкаваным словам дзеля нясення сваёй місіі. Калі Васіль Петручук ваяўніча змагаецца, так як старазапаветныя Гедэон, Самсон ці Напалеон, з розными тутэйшымі філісцімлянамі, тады ў той жа сам час Янка Целушэцкі, як новазапаветны евангеліст, нясе добрую навіну пра Янку Целушэцкага, бескарысна разносіць каштоўнае дабро гэтаксама, як бескарысна раздаваў дабрыню легендарны Яносік.

* * *

Заглянем у будучыню, у прыёмную святога Пятра, да якога вітаюць нашы класікі.

— З чым прыходзіш, сынок? — пытае райскі ключнік Васіля Петручука.

— З крыўдай; мучылі мяне шыпаколы, ставіліся да маёй асобы па-мачашынаму і выпіхалі мяне на абочыну.

— Пойдзеш у рай і будзеш з насалодай глядзець у экран люстэрка. А ты, сынок, што скажаш? — звяртаецца святы Пётр да Янкі Целушэцкага.

— А я вось нясу ў рай кіпу найпахвальнейшых допісаў Янкі Целушэцкага пра Янку Целушэцкага для чытання сабе і праведнікам...

— Выбачай, але яны некананічныя, сама раз для мучання грэшнікаў; таму цябе кірую не ў рай, толькі ў найглыбейшы кацёл пекла, дзе навекі вякоў будзеш пісаць допісы, але не пра твайго куміра Янку Целушэцкага — пра яго хопіць, толькі — дзеля Яносікавай справядлівасці — пра нашага шматпакутнага Васіля Петручука.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# http://belarusianleaders.org

GLOBAL BELARUSIAN LEADERS

Ад грамадзянскай апатыі да грамадзкай супольнасці

Чалавек, які хоча кімсьці камандаваць, мусіць мець лідарскія якасці. Іх нельга нейкім чынам прыдбаць, бо яны, як і ўласна характар, з'яўляюцца справай псіхалагічных асаблівасцей кожнага індывіда. Праўда, тым, хто мае лідарскія якасці, але сам аб гэтым не да канца ведае, дапамагаюць розныя заняткі і нават школы. Яны прапаноўваюць разнастайныя спосабы па развіцці лідарства.

Калі паглядзець на беларусаў, то ў іх „памяркоўным" нацыянальным характары якраз не хапае лідарскіх якасцей. Такую выснову можна зрабіць па меншай меры з таго, што цягам дваццаці гадоў кіруе большай часткай беларусаў адзін чалавек. І няма нікога іншага сярод беларусаў у Беларусі, які так моцна прагнуў бы ўзяць над імі ўладу, што здолеў бы змяніць цяперашняга пажыццёвага прэзідэнта.

Разам з тым трэба ўсведамляць, што рана ці позна такі стан рэчаў усё ж такі зменіцца. І магчыма ў нечым тут паспрые сетка **Global Belarusian Leaders (GBL)** — Глабальныя беларускія лідары, якая існуе ў Вільні. Каб мець больш-менш яснае ўяўленне пра яе, трэба зайсці на сайт сеткі, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belarusianleaders.org**.

„**GBL** з'яўляецца глабальнай сеткай паспяховых прафесіяналаў, таленавітых і актыўных людзей, непасрэдна звязаных або маючых дзелавыя адносіны з Беларуссю. Нашай мэтай з'яўляецца стварэнне прафесійнай супольнасці, якая б спрыяла развіццю еўрапейскіх традыцый у Беларусі, сацыяльнаму развіццю ўнутры краіны і ўмацаванню іміджу краіны на міжнародным узроўні. У рамках супольнасці мы імкнемся падзяляць прафесійны вопыт, пашыраць міжнародныя сувязі і наладжваць дзелавыя кантакты, такім чынам ствараючы новыя магчымасці для прафесійнага росту і ўносячы ўклад у развіццё грамадзянскай супольнасці ў Беларусі", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта.

Тыя, хто так ці інакш звязаны з данай сеткай, як напрыклад віцэ-рэктар па развіцці і міжнародных адносінах Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Дарыус Удрыс, кажуць, што „**GBL** гэта арганізацыя, якая ахоплівае людзей з разнастайнымі жыццёвымі гісторыямі, уключаючымі розныя аспекты мастацтва, бізнесу, навуковых даследаванняў, спорту і палітыкі, якія не баяцца казаць услых, што ганарацца быць беларусамі".

Больш падрабязна пра сетку беларускіх лідараў можна даведацца на старонцы „Аб **GBL**". Сярод іншага там ходзіць пра тое, што **GBL** з'яўляецца некамерцыйнай, палітычна нейтральнай і адкрытай арганізацыяй.

Варта адзначыць, што сайт мае, акрамя беларускай, яшчэ рускую і англійскую моўныя версіі. Але ні на адной з гэтых трох моў не распавядаецца аб нейкіх поспехах **GBL** у дасягненні пазначанай мэты. Магчыма, гэта таму, што арганізацыя зусім маладая — толькі ў сакавіку гэтага года яна была афіцыйна зарэгістраваная, пры тым, што ўзнікла ў леташнім жніўні. Пра тое ходзіць на старонцы „Навіны і мерапрыемствы". Дарэчы, апошнім часам яна абнаўляецца не так актыўна, як летась, што бачна па датах выстаўлення нататак. Так, апошняя датаваная сёлетнім красавіком.

Тым не менш стваральнікі сеткі запрашаюць далучацца да **GBL** кожнага жадаючага, які „гатовы прыняць актыўны ўдзел у развіцці і станаўленні канкурэнтаздольнай Беларусі". Як гэта зрабіць распавядаецца на старонцы „Сяброўства".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Дата з календара

Вырваўшыся з савецкага «раю»

## 45 гадоў з дня смерці Яўхіма Кіпеля



Беларускі грамадскі дзеяч, педагог, актывіст беларускай дыяспары ў ЗША Яўхім Кіпель нарадзіўся 7 студзеня 1896 года ў вёсцы Байлюкі Бабруйскага павета (цяпер Глускі раён Магілёўскай вобласці). З яго біяграфіі чытаем, што Яўхім Кіпель быў паручнікам расійскай царскай арміі. У Першую сусветную вайну, з 1915 года, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. Скончыў Другую Кіеўскую ваенную школу прапаршчыкаў. У 1918-1921 гадах быў у Чырвонай Арміі. Браў удзел у пасяджэннях Усебеларускага з'езда Саветаў у Смаленску, дзе была абвешчана БССР. З 1921 года жыў у Мінску, быў сябрам Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы БССР, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які скончыў у 1926 годзе. У 1922-1927 гадах выкладаў беларускую мову і прыродазнаўства ў розных школах Мінска. З 1926 года — сакратар аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Інстытута беларускай культуры, адначасна лектар на педагагічных курсах у Мінску. Са студзеня 1928 года аспірант БДУ, у кастрычніку 1929 года выключаны па ідэалагічных матывах. З сакавіка 1930 года быў выкладчыкам Мінскіх педагагічных курсаў пры тэхнікуме.

У час сталінскіх рэпрэсій, 28 чэрвеня 1930 года Яўхім Кіпель быў арыштаваны ДПУ БССР па справе так званага «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы Калегіі АДПУ СССР ад 10 сакавіка 1931 года высланы ў Налінск Вяцкай вобласці на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны ў расійскім горадзе Арол у снежні 1935 года, засуджаны яшчэ да 5 гадоў савецкіх канцлагераў і высланы на Далёкі Усход. Пасля адбыцця тэрміну вызвалены ў снежні 1940 года. Пасля выхаду на свабоду настаўнічаў у горадзе Саратаў.

На пачатку 1942 года мабілізаваны ў Чырвоную Армію. З чэрвеня 1942 года ў Мінску. Працаваў у Інспекцыі беларускіх школ над падрыхтоўкай школьных падручнікаў і праграм, актыўна працаваў у Беларускай народнай самапомачы (нацыянальная арганізацыя, якая дзейла ва ўмовах нацыцкай акупацыі). Рэдагаваў газету «Голас вёскі». З 1944 года быў кіраўніком навуковага аддзела Беларускай Цэнтральнай Рады, старшынёй II Усебеларускага Кангрэса.

У 1944 годзе сям'я Кіпеляў выехала на Захад. Выезд быў альтэрнатывай фізічнага знішчэння з боку сталіншчыны. З сярэдзіны 1944 года — у Нямеччыне. Падрыхтаваў да друку кнігу ўспамінаў пра савецкія лагеры «Зь іхняга раю». У 1950 годзе Кіпель пераехаў у ЗША, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газету «Беларускае слова», з 1951 года ўваходзіў у Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, стварыў Аб'яднанне беларускіх вязняў савецкіх канцлагераў, быў ініцыятарам стварэння Беларускай народнай партыі. Публікаваўся ў беларускай эміграцкай прэсе. Успаміны Яўхіма Кіпеля захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Памёр Яўхім Кіпель 27 ліпеня 1969 года. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрзі). Толькі ў 1989 годзе Вярхоўны суд БССР прыняў пастанову аб яго рэабілітацыі. У 1999 годзе ў Нью-Ёрку выйшла кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля «Эпізоды». Беларускую справу Кіпеля годна прадоўжыў ягоны сын — Вітаўт Кіпель, таксама вядомы культурніцкі і грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Студэнты з Беларусі
## вучацца польскай мове

У Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах прыехала 18 студэнтаў з Беларусі, якія на працягу месяца ўдзельнічаюць у XVI Летняй школе польскай мовы і культуры. Разам з імі на занятакі ходзіць больш за 50 сяброўак і сяброў з 9 краін. Прыехалі яны на Падляшша, каб лепш пазнаёміцца з мовай і культурай Польшчы. Як паведаміла „Ніве” загадчыца школы д-р Беата Валенцюк-Дэйнека, у праграме курсаў прадугледжаны дыдактычныя заняткі, прыстасаваныя да дыферэнцыраванага ўзроўню моўнай кампетэнцыі ўдзельнікаў. Азнаёмяцца яны, між іншым, з перакладчыцкай справай, культурай польскай мовы, гісторыяй польскай літаратуры, ведамі аб Польшчы, гісторыяй рэлігіі, з палітычнымі і эканамічнымі падзеямі пасля 1980 года. Праграму папаўняюць культурныя мерапрыемствы, у тым ліку экскурсіі (напр. на Грабарку), літаратурныя сустрэчы, гульні, тэатр, кіно, танцавальныя майстар-класы, спяванне польскіх песень, дыскатэкі. Праект рэалізаваны супольна з Міністэрствам навукі і вышэйшага школьніцтва ды Бюро прызнання адукацыі і міжнароднага абмену.

Прарэктар ПГУ праф. Казімеж Янкоўскі адзначыў, што Летняя школы — важная падзея не толькі ў жыцці ўніверсітэта, але і рэгіёна. Гэта элемент прамоцыі, таму што апрача пашырэння моўных ведаў удзельнікі знаёмяцца з Падляшшам. У пазнейшым прафесійным жыцці гэтыя эмацыйныя сувязі могуць даць плён у выглядзе розных форм супрацоўніцтва. „Я вучуся на эканамічным аддзяленні, — сказала „Ніве” Кацярына Бандарэц з Брэста. — Добрае веданне польскай мовы гэта для мяне натуральная дарога да пазнейшай дзейнасці ў бізнесе. Я жыву блізка граніцы, таму лічу, што веданне мовы суседзяў справа неабходная. Часам складанасці выклікае тое, што беларуская і польская мовы маюць многа падобных або аднолькавых слоў, значэнне якіх рознае. Люблю такія выклікі, а іх пераадольванне прыносіць задавальненне”, — дадала яна. Дзяніс Мацкевіч з Кобрына ў сваю чаргу падкрэсліў, што веданне некалькіх моў на пагранiччы — справа натуральная. „У Рэчы Паспалітай польскую мову можна вывучыць больш дасканала. Нашы народы заўсёды жылі дружна і трэба спадзявацца, што і ў будучыні адносіны паміж Беларуссю і Польшчай будуць добрыя” — сказаў ён. Паводле меркавання рэктар ПГУ праф. Тамары Захарук, дадатковая навука замежным мовам гэта надзвычайна трапны выбар, які дае большыя шанцы студэнтам на будучыню. Веданне моў пашырае разумовыя гарызонты і аблягчае пераадольванне бар'ераў, асабліва ментальных. Студэнты адзначаюць, што іх пабыўка не толькі дапамагае ім у засваенні польскай мовы і ў азнаямленні з культурай і гісторыяй Польшчы. Яны таксама даведаліся аб беларусах пражываючых у Польшчы, з прыемнасцю пазнаёміліся таксама з тыднёвікам „Ніва”.

Адам БОБРЫК

## ДВОР БОРТНІКА

Дагэтуль у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) такіх адмысловых і элегантных рэстаранна-гасцінічных аб'ектаў не было. Ды вось 1 студзеня гэтага года Яўген і Марыя Сапёлкі з Нараўкі здалі ў карыстанне прыгожы вялікі чатырохпавярховы Двор бортніка. Так яго назвалі, бо самі яны вопытныя пчаляры. Пчалярствам займаюцца шмат гадоў. Пачыналі з пасекі ў Масеве.

Рэстарану далі яны назву „Carska komnata” („Царскі пакой”). У ім на сценах больш паўсотні спецыяльна выбраных прыгожых мастацкіх карцін з сямейнай калекцыі ўласнікаў аб'екта. На іх усяляк іх формаў вулеі або прынамсі адна пчолка дзесьці на фоне карціны. У рэстаране прапануюць наведвальнікам розныя стравы паводле ўласных арыгінальных рэцэптур. Можна заказаць, між іншым, суп салянку, адварное мяса ў грыбным соўсе, каркавіну ў пtriamдзе з мёдам, чэбурэкі, кумпяк сарны, дэсерт „Душа царыцы”. У рэстаране прапануюць вяндліну ўласнага вырабу.

Прыемную атмасферу выклікаюць у гасцей старанна дапасаваныя колеры сцен і стылёвая прыгожая мэбля ва ўсіх памяшканнях, у тым ліку і ў гасцініцы. У гасцінічных пакоях ёсць тэлевізары, інтэрнэт, ванныя. Начавалі тут замежныя мастацкія калектывы і індывідуальныя госці. Пакуль што ў гасцініцы 50 начлежных месц, а будзе яшчэ больш на адным з вышэйшых паверхаў. Ёсць канферэнцзала, фітнес-зала і спа-салон.

Двор бортніка знаходзіцца непадалёк Белавежскай пушчы і пры ваяводскай шашы з Гайнаўкі ў Нараўку і далей у Юшкаў Груд і Міхалова. Прыгожае тут наваколле і чыстае паветра. Многа дрэў і дэкаратыўных кустарнікаў і, між іншым, таму прылятае сюды многа пеўчых птушак. Перад домам музей пчалярства (у ім рэдка спатыканыя вулеі, борці), клумбы з кветкамі, альтанкі, сцяжынкі для прагулак, басейн і ціхашумлівы вадаспад ды прывабліваа, багатая ў рознае абсталяванне пляцоўка для дзіцячых гульняў. Перад будынкам — вялікая аўтастаянка.

У рэстаране „Царская святліца” ладзілі, між іншым, баль на праваслаўны Новы год, вяселлі, імяніны жонкі гміннага раднага, багатае частаванне з нагоды адкрыцця мясцовага новага кааператыўнага банка, танцавальную вечарыну пенсіянераў.

Нараўчанскі арыгінальны і непаўторны па архітэктуры рэстаранна-гасцінічны Двор бортніка запрашае кожны дзень!

(яц)

PS. Вэб-сайт: www.dworbartnika.pl

## 27.07 — 02.08

**(22.03. — 20.04.)** Добры час у пары, але твае планы могуць не спадабацца партнёру. 27-30.07. можаш падумаць аб змене працы. На гэтым тыдні будзь асабліва ўважлівы пры кантакце з адкрытым агнём і электрычнасцю. У сераду магчымы нязначны канфлікт з суседзямі.

**(21.04. — 21.05.)** Ачысцяцца старыя жалі ў пары, упусціцца свежае паветра ў адносіны. Старайся практыкаваць цела. Табе здаецца, што заблытаўся і не маеш адказаў на важныя пытанні. Але перабольшваеш свае праблемы. З часам усё вырашыцца само сабой, ды нічога не страціш, дарма перажываў і хваляваўся. Перастаў у сваім доме мэблю.

**(22.05. — 22.06.)** Калі выпадкова перабылытаеш соль з цукрам, пасалі ўшы гарбату ці кінуўшы цукар у суп, чакай добрых навін у самы бліжэйшы час. У тваім жыцці адбудзецца нешта новае і незвычайнае, нейкія інтрыгуючыя падзеі. Выявіцца ў цябе здольнасць прыцягваць тое, што хочаш.

**(23.06. — 23.07.)** 26-30.07. выбухова ў пары. Новыя сувязі з дзелавымі партнёрамі могуць аказацца вельмі трывалымі. У гэтыя дні зможаш закласці добрую аснову для сваіх будучых фінансавых поспехаў. Таксама тыдзень вельмі ўдалы для тых, хто заняты пошукамі новай працы.

**(24.07. — 23.08.)** Упарадкуеш каляндар і задбаеш аб дэталі ў падарожжы. Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напругу. Адмяні свае планы і надай больш увагі свайму здароўю. Першая палова тыдня будзе багатая на новую інфармацыю і новыя знаёмствы. Панядзелак: не заключай сёння дагавораў аб здачы сваёй кватэры ў наём.

**(24.08. — 23.09.)** 26-30.07. горача ў пары, а самотныя могуць шалёна закахацца. Твой настрой будзе не вельмі сур'ёзным, і гэта можа выклікаць раздражненне ў людзей з адсутнасцю пачуцця гумару. Вялікая верагоднасць буйных памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў, як тваіх, так і чыіхнебудзь. Праяві розум і не ідзі на паваду ў мімалётных запалу і жаданняў.

**(24.09. — 23.10.)** 26-30.07. у найлепшым выпадку ў справе наступіць імпас. Пасля для тых, хто пакуль не знайшоў спосабу задаволіць свае амбіцыі, надыходзіць залаты час. Варта дзейнічаць актыўна і рашуча. Зараз у цябе ёсць усе шанцы заявіць пра сябе і прыкметна прасунуцца ў кар'еры.

**(24.10. — 22.11.)** У апошнія дні ліпеня можаш сустрэць асобу, якая акажа на цябе аграмадны ўплыў. Дзякуючы ёй зробіш змены, на якія не меў ты дагэтуль адвагі. Але 26-30.07. могуць пагоршыцца лады з партнёрам. Прытым слабейшая форма, і калі захварэеш, нямоглась хутка можа не мінуць.

**(23.11. — 22.12.)** Асцерагайся ўсяго, што пачуць занадта добра, каб быць праўдай. Выкарыстоўвай свае творчыя здольнасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Любая інфармацыя, якую атрымаеш на гэтым тыдні, можа аказацца карыснай у самых розных сферах твайго жыцця.

**(23.12. — 20.01.)** Бізнесменаў на гэтым тыдні чакаюць непрыемныя сюрпрызы з боку дзелавых партнёраў. З катэгоры роўных партнёраў паспрабуюць перамясціць цябе на прыступку ніжэй — у разрад залежных і падначаленых. У панядзелак табе варта сцерагчыся сваіх памкненняў да аўтарытарнасці і празмернай прыдзірлівасці да недахопаў навакольных, інакш да канца дня ты рызыкуеш застацца ў адзіноце.

**(21.01. — 19.02.)** Адазвецца да цябе хтосьці, з кім ты даўно не меў кантакту. Чакае цябе шмат спраў і праблем. У канчатковым выніку ўсе справы пойдуць табе на карысць, аднак не зможаш усяго зрабіць адзін, і трэба будзе прыняць дапамогу збоку. Калі ў цябе маецца далёка ідучыя планы, не бойся задзейнічаць уплывовых сяброў і сваякоў, якія дапамогуць тваім праектам ажыццявіцца.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш хуткі і ўдачлівы, расправішся з усімі, хто табе пагражае! Старанна спланый план дзеянняў на наступны тыдзень, імкнучыся нічога не ўпусціць: гэтым забяспечыш сабе поспех. Не марнуй занадта шмат часу на забаўкі: лепш займіся грамадскімі справамі. Варта табе выбрацца хоць у невялікае падарожжа.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. цела, тэалагічная пара крыві, 2. стан жанчыны да шлюбу, 3. партнёр ночы, 4. сыпкія часціны кварцу, якіх многа на Сахары, 5. не аналіз, 6. спадзяванне з імянінамі 30 верасня, 7. сказ Карана, 8. узнагарода ў выглядзе круглай металічнай пласцінкі, 9. рэлігійная крывадумнасць, 10. вёска, 11. з дурнога куста і яна пуста, 12. гарадская дарога.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Друць, кава, рыза, тып, ціс.

Рашэнне: **Скупы два разы траціць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Веры Русіновіч** з Нарвы і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Без долі на канцы свету! (4)



Уцёкі ад сямейнага гняздзечка напаміналі буралом у пушчы. Перашкоды, быццам калоды, сыпаліся пад ногі. Услед за з'язджаючай з хутара сям'ёй сыпаліся горкія мацюкі і праклёны.

— Маці заелася, каб пасадзіць майго мужыка ў турму, — успамінае Лідзія. — Яна не ўмела дараваць знявагу. Гэта ж здарылася пад яе дахам. Пад яе наглядам. Яна галасіла пра крыўду сястры і адначасова намякала пра аліменты. Лідзія ведала, што ўсе грошы апынуцца ў кішэні маці. І што б не гаварыць, яна не хацела крыўдзіць дзяцей. У глыбі душы шкадавала мужа. Пойдзе чалавек у турму, азвярэе! Не, лепш пацярпець, забыцца пра гонар... Яшчэ больш ёй хацелася ратаваць сям'ю.

— Апрача дзяцей у мяне не было нікога на гэтым свеце, — кажа жанчына. — Усе цёткі, сваякі засталіся па другім баку граніцы. А бацька? Ён не прымаў удзелу ў разборках. Ніколі за ёй не заступіўся. Адно што ведаў: работа дык работа. Такі абыякавы, ніякі зрабіўся. Ці можа згубіў адвагу, тады, калі за немца над сваёй магілай выстойваў?

* * *

Лідзія сама кожны дзень дакарала сябе за недахоп рашучасці і адвагі, за пакорлівасць. Чаму ў маладыя гады ёй не хацелася пазмагацца за сябе? Каб хоць закончыла якую школу...

У Гайнаўцы пайшла працаваць у тартак. Спачатку, пакуль не перавялі *на галю*, працавала грузчыкам *на пляцы*, пад даждждом і марозам. У адзін хмурны дзень пакаўзнулася, паляцела на рэйкі. У выніку лопнуў пазваночнік. Аперацыю рабілі ажно ў Атвоцку. Каб ратаваць жыццё, муж узяў пазыку, дзесяць тысяч — на тыя часы гэта былі вялікія грошы...

Разам з пераездам у Гайнаўку бяда і безграшоўе пастаянна заглядалі ў вочы.

— Пяць гадоў мы жылі ў вясковай хатцы з двума акенцамі, — успамінае. — Усе, пяць асоб, у адной зале. Дзеці на адной *версальцы* ўпоперак спалі.

Нягледзячы на нястачы, сям'я трымалася разам.

— Мы перавялі судом на сябе дзіцятка сястры, — кажа, — каб жыць як людзі.

Гэта ўзбударажыла маці. Яна настойвала, каб пакараць зяця ды схаваць ад свету пазашлюбную ўнучку. Сушыла галаву, каб аддаць у дзетдом. Запамяталіся бясконцыя візіты працаўнікоў сацыяльных і судовых устаноў. Czy dziecko nie było pobite?

Адзін сорам і прыніжэнне. Чалавек, як не стараўся, усё быў падазроным. Хто атручваў жыццё? У іх жа не было яўных ворагаў. Аднак, усе ведалі, што ўвесь яд сачыўся з пушчанскага хутара.



— З бацькамі мы спатыкаліся толькі пяць разоў у судзе. Шэсць гадоў мы не ведалі сябе, як чужыя жылі. І што тут пра нейкую дапамогу казаць?

* * *

Іншая справа — свет не без добрых людзей. Лідзія Назарук ад пачатку мела шчасце да добрых людзей. Чалавек, які прыняў іх на кватэру, спачуваў, дапамагаў па меры магчымасці.

Пасля пяці гадоў атрымалі кватэру ў блёку. Дапамог кіраўнік тартака. Ён падгаварыў, каб пісаць прашэнне ў Варшаву. Пасля, як атрымалі кватэру, фірма назначыла фінансавую дапамогу. За гэта ачкеілі сцены, палажылі на падлогу дываноўвае пакрыццё. Хоць у нястачы, канец з канцом зводзілі, вучылі дзяцей...

— Ды як вы ў Бобенку вярнуліся? — пытаю.

— Гэта пачалося так... Адзін чалавек з вёскі сустрэў майго бацьку і кажа: — *Міхаль, ты Бога нэ боїшся? Дівчына пошла ў людэ, а ты навэт золотувкі нэ даў. Які з тэбэ батько?!*

Бацька паслухаў суседа, прыехаў у Гайнаўку. Прапанаваў, каб Лідзія сабе карову з хлява выбрала, каб гадавала або прадала на грошы. Гэта было незадоўга да яго смерці.

Лідзія Назарук рашыла першай змірыцца. Пачала прыязджаць на хутар. Мыла адзенне, рыхтавала есці. Чалавек ад бацькоў ніколі не вызваліцца. Добра, што хоць на канец згода пайшла. Спачатку адышоў бацька, два гады пасля яго не стала маці. Усё ліхое быццам з дымам пайшло... У тым жа часе яна і сама аўдавела. Спачатку думала, каб дажываць у горадзе. Забрала да сябе яшчэ і сястру-інвалідку. Каму ж чужому патрэбная яна на гэтым свеце? Хто чужы зразумее іх сямейную драму?

Апошні план праваліўся пасля году супольнага жыцця:

— Сястра ніколі ў блёку не жыла, не патрапіла запамятаць нумар кватэры ці хоць бы маё прозвішча. Усё плакала і плакала, — прыгадвае спадарыня Лідзія, — прасілася, каб вяртацца дахаты.

А там на хутары нават электраэнергіі не было...

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



Юрка Асеннік



БАСОВІШЧА 2014 / фота:www.racyja.com




Аляксандр Памідораў



Ігар Варашкевіч



Хрыстафор Сяськевіч



Лявон Вольскі



ISSN 0546-1960